PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (2193) Год XLIII Беласток 24 мая 1998 г. Цана 1 зл.

# Архіепіскап Сава — мітрапалітам

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава рашэннем Святога Сабора Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ад 12 мая 1998 года выбраны мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы. Урачыстасці ўзвядзення на мітрапалічы прастол адбудуцца 31 мая г.г.**

Архіепіскап Сава (у міры Міхал Грыцуняк) нарадзіўся 15 красавіка 1938 года ў Снятычах Замойскага ваяводства ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння падставовай адукацыі вычыўся ў Металургічным тэхнікуме ў Хожаве, навуку ў якім спыніў і паступіў у Праваслаўную духоўную семінарыю ў Варшаве. Пасля яе заканчэння ў 1957 годзе паступіў у Хрысціянскую тэалагічную акадэмію. Багаслоўскую адукацыю закончыў у 1961 г., атрымаўшы званне магістра праваслаўнай тэалогіі.



У 1961-1979 гадах працаваў выкладчыкам у Праваслаўнай духоўнай семінарыі, а з 1962 года выкладае на ХТА. У 1965 годзе выехаў штудзіраваць на Факультэце праваслаўнай тэалогіі Бялградскага універсітэта і там на аснове дысертацыі „Жыццё і дзейнасць св. Іаана Хрысціцеля" і здадзеных экзаменаў атрымаў навуковую ступень доктара багаслоўя. У 1990 годзе прэзідэнт РП прысвоіў яму званне прафесара багаслоўскіх навук.

У дыяканы рукапаложаны быў у 1964 годзе, а падчас пабыўкі ў Бялградзе з рук сербскага патрыярха Германа прыняў манаскі постырг і атрымаў імя Сава. У 1966 годзе мітрапаліт Сцяфан рукапалажыў яго ў свяшчэннікі. Затым у 1969 годзе быў пасвячаны ў ігумены, а ў 1970 годзе стаў архімандрытам.

У 1968 годзе атрымаў прызначэнне на дырэктара Канцылярыі Мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы, у лютым 1970 г. стаў наместнікам Свята-Ануфрыеўскага манастыра ў Яблачыне, а ў 1974 г. — рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі таксама ў Яблачыне. Гэтыя абавязкі выконваў да моманту высвячэння на Лодзінскага епіскапа. У гадах 1979-1981 узначальваў Лодзінска-Познанскую епархію, а з 1 жніўня 1981 г. — Беластоцка-Гданьскую. У 1988 годзе быў пасвячаны ў сан архіепіскапа. З 1994 года выконваў абавязкі Праваслаўнага ардынарыя Войска Польскага, а ў 1996 годзе атрымаў званне генерала брыгады. З 11 лютага, дня смерці мітрапаліта Васілія, выконваў яго абавязкі.

Пасля абрання на мітрапаліта архіепіскап Сава заявіў, што будзе кіравацца ўказаннямі св. Апостала Паўла і, калі гэта будзе магчымае, жыць з усімі ў згодзе і міры. Дадаў таксама, што будзе дбаць пра стабільнасць і адзінства Царквы, а найважнейшымі праблемамі Праваслаўнай Царквы палічыў пытанні кананічнага, рэлігійнага, духоўнага, эканамічнага і экуменічнага характару.

# Перад Фестывалем



*Дырэктар Мікалай Бушко са спевакамі са Славакіі.*

**З Мікалаем БУШКО, дырэктарам Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы размаўляе Аляксей Мароз.**

***— Ад 24 да 31 мая ў Саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы адбывацца будзе XVII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі. Чым заахвоцілі б Вы людзей, якія яшчэ не мелі нагоды пабываць на такім мерапрыемстве, каб наведалі Гайнаўку ў гэтыя майскія дні?***

— Хацеў бы я сказаць, што гэта адзіны такога роду Фестываль у свеце, у якім прыняло ўдзел ужо звыш 300 хораў з 21 краіны Еўропы, Азіі, Афрыкі і Амерыкі. У 1995 годзе Міністэрства культуры і мастацтва ўключыла яго ў спісак мастацкіх мерапрыемстваў найвышэйшага рангу „нулявой катэгорыі", як „Шапэнаўскі конкурс" ці „Варшаўская восень". Гэта Фестываль, у якім побач парафіяльных вясковых і гарадскіх хораў спяваюць свецкія — аматарскія і прафесійныя. У гэтым годзе выступіць 36 калектываў з 11 краін (больш чым 1 200 харыстаў). Сустракаюцца тут людзі розных веравызнанняў, нацыянальнасцяў і поглядаў, якіх яднае малітва і мастацтва. Гэта таксама сустрэча дырыжораў, якія маюць магчымасць пабачыць найлепшых у гэтай прафесіі. Фестываль царкоўнай музыкі з'яўляецца святам, дзякуючы якому людзі ў свеце ведаюць пра Беласток, Беласточчыну і перад усім пра Гайнаўку. Гэта адзінае мерапрыемства, у час якога ўжо на другі дзень можна купіць аўдыёкасету, а лаўрэаты атрымліваюць кампактдыск з запісам выступленняў. Ад некалькіх гадоў патранат над Фестывалем трымаў наместнік міністра культуры Міхал Ягела, а зараз трымае міністр Іаанна Внук-Назарова.

***— Ці сёлета паявіцца нешта новае, аб чым хацелі б Вы паінфармаваць гайнаўскую і прыезджую публіку?***

— Мы ў мінулых гадах ставілі кожнаму ўдзельніку пытанне, што яму не

[працяг ☞ 3]

## У нумары

*Ludzie mają po dziurki w nosie rozlazłego, nieudolnego państwa, które obraża ich na każdym kroku. W kruchej równowadze ludzie uczciwi — przestępcy szala zwycięstwa przechyliła się na stronę kryminalistów. Podejrzani i osądzeni przestępcy nagle zaczęli uzyskiwać przywileje, o których dawniej im się nie śniło. Zderzenie potężnych, czarnych pieniędzy z biedą aparatu sądowego uprzywilejowało przestępców. Formalnie opłacani adwokaci grają zręcznie na rozstrojonych instrumentach prawa. W rezultacie może być osądzony i skazany osobnik, który ukradł rower. Prawdziwi kryminaliści są natomiast zupełnie bezpieczni. Gangsterzy rzadko oglądają więzienia. Chyba że podczas wizyt u nieszczęśliwie zamkniętych kolegów. Wysokiej rangi funkcjonariusz służby więziennej przedstawił w telewizji menu więźnia, na które wielu Polaków żyjących na wolności nie mogło sobie pozwolić. O dobro więźniów troszczy się wiele organizacji i instytucji. Chwała im za to. O los ofiar przestępców nie troszczy się nikt.*

*W polskim systemie prawa przestano wykonywać wyroki śmierci. W europejskich państwach, gdzie nie ma kary śmierci, zbrodniarze na ogół jednak nie żyją długo. Często, jak głoszą komunikaty, popełniają samobójstwa w celi. W Polsce wyroki są natomiast wykonywane — przez przestępców na niewinnych ludziach.*

*Kurier Poranny, nr 101*

# Мы прачыталі

* * *

*W miejscowości Kozia Góra pod Radomiem lada dzień ma być oddane do użytku więzienie na 900 miejsc. Wszystkie kraty są cienkie, zrobione ze specjalnego stopu, którego nie ruszy żadna piła. Cały ruch w kryminale będzie odbywać się podziemnymi tunelami. Cele jedno- i trzyosobowe. Jedynki — z umywalką i sedesem. Trójki — z łazienką wyłożoną kafelkami, prysznicem i ubikacją — z zasuwanymi drzwiami. Nad drzwiami półki na telewizor. Przy drzwiach dzwonek na oddziałowego z głośnikami i mikrofonem. Będzie tu można przyjmować rozmowy telefoniczne przychodzące z zewnątrz. Do każdego bloku przylegają tzw. wieże socjalne, gdzie znajdują się kuchnia, sala telewizyjna i wideo, czytelnia, pokój do gry w tenisa stołowego, siłownia z najnowocześniejszym wyposażeniem — słowem dla trenowania muskulatury, ulubionego zajęcia większości osadzonych.*

*Polityka, nr 18*

Курорт для бандытаў — pardon — „zarabiających inaczej”.

* * *

*У прамове прэзідэнта Лукашэнкі (двухгадзіннай — рэд.) прагучала толькі адно слова па-беларуску. Лукашэнка сказаў, што беларускі народ „памяркоўны”. Такім чынам даказвае, што пад яго кіраўніцтвам надаецца прыярытэт беларускай мове і нацыянальнай культуры.*

*Беларускі дайджэст, н-р 4*

* * *

*Pułkownik Kukliński zachowywał się w samolocie jak normalny pasażer. Zjadł łososia na przystawkę, cielęcinę na ciepło, wziął deser, jadł kurczaka, pił soki, czytał.*

*Gazeta Wyborcza, nr 100*

Польскія журналісты не паінфармавалі толькі сваіх чытачоў, слухачоў і гледачоў, чым Кукліньскі займаўся ў туалеце. Паводле нашых інфармацый, хадзіў туды з сотавым тэлефонам.

* * *

*Demokraci rosyjscy nie byli w stanie zapewnić ludziom znośnego życia. Zaczęli rwać dla siebie kęsy i kęski, nie myśląc o tym, że istnieje jeszcze jakiś naród. Kiedy władze zaczęły mówić o konieczności społecznych gwarancji reform? Na trzy miesiące przed wyborami! Dopiero wtedy, po pięciu latach trwania tychże „reform”! Zresztą obecne władze Rosji to ci sami komuniści, tylko sprytnie przemalowali się na demokratów i handlowców,* — сказаў Аляксандр Салжэніцын.

*Gazeta — Magazyn, nr 17*

* * *

*Komunizm był w istocie ideologią bardziej niebezpieczną od faszyzmu. Głosił równość, potrzebę wspólnoty, internacjonalizm, sprawiedliwość społeczną. Marksizm był postrzegany jako teoria demaskatorska, obnażająca rzeczywistą mapę konfliktów i interesów świata kapitalistycznego. Przeświadczenie, że kapitaliści niczego nie oddadzą z dobrej woli spowodowało, że ideowi komuniści, nawet o najbardziej humanitarnym nastawieniu, godzili się na „koszta rewolucji”. Rozumowano tak: możemy być albo donkiszotami, bolejącymi nad nędzą ludzkości, albo stanąć do walki. System wartości komunisty nie musiał zaczynać się od tych tradycyjnych, powszechnie uznawanych. Komuniści byli przeświadczeni, że innej drogi, niż rewolucja, do wyzwolenia ludzkości nie ma. Nie był to stan świadomości z konieczności zbrodniczy, przestępczy. System komunistyczny był bardziej niebezpieczny od faszyzmu właśnie dlatego, że budował totalitaryzm rękami ludzi również szlachetnych i światłych.*

*Polityka, nr 18*

* * *

*Альбо мы прызнаем, што незалежнасць Беларусі ёсць варунак далейшага палітычнага развіцця, што страта незалежнасці — гэта страта суб'екта дэмакратыі, знікненне беларускага народа, альбо спадзяемся, што „светач дэмакратыі” і вызваленне ад тыраніі Лукашэнкі прыйдзе з Усходу, з Масквы. На маю думку, апошняе — проста глупства,* — сказаў Вінцук Вячорка, намеснік старшыні БНФ.

*Народная воля, н-р 19*

# З мінулага тыдня

**У варшаўскім мітрапалічым саборы** архіпастыры Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы здзейснілі хіратонію трох новых епіскапаў: Гайнаўскага — **Мірана**, Супрасльскага — **Іакава** і Бельскага — **Грыгорыя**.

**Пятро Сардачук**, пасол Украіны ў Польшчы выступіў на V Еўрапейскіх сустрэчах у Варшаве з заклікам не дапусціць, каб будучае членства Польшчы ў Еўрасаюзе давяло да ўзнікнення на польскай усходняй граніцы „новага берлінскага муру”. Адзначыў ён, што ўся аб'яднаная Еўропа павінна быць зацікаўлена супрацьдзеяннем будове новага муру на ўсходзе. Яго ўзнікненне магло б давесці да паўстання шэрай зоны і праваціраваць „расейскіх ура-патрыётаў” да трактавання яе як сваёй зоны ўплываў. Усходняя граніца Польшчы не павінна быць „празрыстай”, але „цывілізаванай, кантраляванай, прыязнай людзям”. На думку літоўскага пасла **Антонаса Вальёніса**, польская ўсходняя мяжа павінна стаць мостам для культурнага і гаспадарчага супрацоўніцтва і мурам для злачынцаў і нелегальнай эміграцыі.

**У Польскім інстытуце ў Рыме** адбылася італьянская прэзентацыя зборніка апавяданняў **Сакрата Яновіча** „Мініяцюры”. Прэзентацыі спадарожнічала выстава фатаграфій **Лявона Тарасэвіча**. Падчас мерапрыемства дэманстраваўся дакументальны фільм **Габрыелі Кардаца** „Тарасэвіч”. З Рыма абодва мастакі падаліся ў Венецыю, дзе абдылася аўтарская сустрэча ў Галерэі дэль Каваліна. Паездку арганізавала згаданая Галерэя і польскае МЗС.

**Група маладых цыганоў** накінулася на лідэра чэшскай крайняй правай групоўкі **Мірасліва Слядка**, вядомага сваімі антыцыганскімі выступленнямі. Слядак прамаўляў да сабраных на рынку ў чэшскім горадзе Новы Бор, калі некалькі цыганоў падышло да яго і трох ягоных супрацоўнікаў і перавярнула іх на тратуар. „Ён паводзіў сябе так нахабна, што мы не маглі гэтага перанесці”, — сказаў адзін з цыганоў. Ніводзін з чатырох правых дзеячаў не трапіў у бальніцу.

**Управа** Польскага баксёрскага саюза, па прапанове трэнера алімпійскай зборнай **Адама Кусёра** зацвердзіла састаў зборнай Польшчы на XXXII Чэмпіянат Еўропы ў Менску (17-24 мая). Польшчу ў змаганнях прадстаўлялі 12 баксёраў, у тым ліку грамадзянін Беларусі **Генадзь Старушэнка**, які ўжо сем гадоў прабывае ў Польшчы і займаецца ў клубе „Палёнія” Свідніца.

**Сёлетнія выпускнікі** сярэдніх школ атрымаюць арыгінал атэстата сталасці з дзвюма копіямі. Гэта дазволіць выпускнікам падаць дакументы ў дзве-тры вышэйшыя навучальныя ўстановы, паколькі ад некалькіх гадоў ВНУ праводзяць уступныя экзамены на першы курс у розныя тэрміны.

**У I квартале 1998 г.** на Беласточчыне здарылася 309 дарожных аварый, у якіх загінула 29 асоб. Найбольш сутыкненняў зарэгістравана ў Саколцы, бо аж сем. А ўжо ў красавіку гэтага года ў 93 выпадках страцілі жыццё 6 чалавек, а 117 атрымалі раненні. У гэтым жа месяцы паліцыя затрымала 381 нецвярозага шафёра, з таго ліку найбольш на вуліцах Беластока.

**У Гайнаўцы** паліцыя затрымала 43-гадовую веласіпедыстку, жыхарку адной прыпушчанскай вёскі, якая ехала начной парою ў нецвярозым стане. Бойкая жанчына адмовілася паказаць праваахоўнікам дакументы, зняважыла іх і пабіла.

# Весткі з Беларусі

**Аўстрыйскія капіталаўкладанні**

Аўстрыя ў найбліжэйшы час можа выйсці на першае месца па аб'ёмах інвестыцый у эканоміку нашай рэспублікі, — заявіў міністр знешнеэканамічных сувязей Міхаіл Марыніч на прэс-канферэнцыі, прысвечанай падвядзенню вынікаў знаходжання дзелавых колаў гэтай краіны ў Беларусі. Інтарэс аўстрыйскіх бізнесменаў да супрацоўніцтва з Беларуссю павялічваецца з кожным годам. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў цяперашнім візіце прымалі ўдзел прадстаўнікі амаль 90 найбуйнейшых аўстрыйскіх кампаній, многія з якіх ужо рэалізуюць некалькі шырокамаштабных сумесных праектаў.

**Паскорыць ратыфікацыю**

Украіна заклікае парламент Беларусі паскорыць ратыфікацыю дагавора аб дзяржаўнай мяжы, які быў падпісаны прэзідэнтамі Леанідам Кучмам і Аляксандрам Лукашэнкам 12 мая 1997 года, — заявіў пасол Украіны Анатоль Дронь на сустрэчы з кіраўнікамі абедзвюх палат Народнага сходу, якой мэтай было звярненне ўвагі беларускага боку на неабходнасць паскарэння ратыфікацыі дагавора аб мяжы Беларусі і Украіны.

**Пазітыўныя тэндэнцыі**

Цяпер нішто не перашкаджае развіццю беларуска-польскіх эканамічных сувязей, — заявіў кіраўнік варшаўскай фірмы „Польэкспа” Ежы Караім у час нядаўняга наведвання беларускай сталіцы. За 11 месяцаў мінулага года тавараабарот паміж абедзвюма краінамі павялічыўся на 15%. Але нягледзячы на пазітыўныя тэндэнцыі, што намеціліся ў эканамічных узаемаадносінах, тавараабарот пакуль не адпавядае рэальным магчымасцям. Зрэшты, на думку Ежы Караіма, высокія тэмпы эканамічнага росту ў 1997 годзе як у Польшчы, так і ў Беларусі ўсяляюць надзею на плённасць супрацоўніцтва ў будучым.

**Прэзідэнт і льнаводства**

У Аршанскім раёне на базе мясцовага льнокамбіната прайшла рэспубліканская нарада па пытанні развіцця льнаводства ў краіне. У яе рабоце бралі ўдзел прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг і іншыя кіраўнікі дзяржавы. Прэзідэнт наведаў Дубровенскі льнозавод, дзе азнаёміўся з работай прадпрыемства і агледзеў выставу тэхнікі.

**Дрэнны стан магістраляў**

Па падліках спецыялістаў для таго, каб прывесці беларускія дарогі ў нармальны стан і развіваць інфраструктуру агульная сума інвестыцый у дарожную галіну на працягу трох гадоў павінна скласці больш за 220 трыльёнаў беларускіх рублёў. Працягласць аўтадарог у Беларусі складае больш за 52 тысячы км, з якіх 11 тысяч км — дарогі рэспубліканскага значэння. Амаль палова мясцовых магістраляў не адпавядаюць нарматыўным патрабаванням. Нездавальняючы стан дарог — галаўны боль не толькі вадзіцелей і рамонтнікаў. Летась больш за 22 трыльёны беларускіх рублёў дзяржава не далічылася з-за дрэннага стану магістраляў.

**Рамонт без падаплёкі**

У рашэнні Міністэрства замежных спраў аб часовым пераносе рэзідэнцыі шэрагу замежных дыпламатычных прадстаўніцтваў з пасёлка Драздзы адсутнічае якая-небудзь палітычная падаплёка, — заявіў віцэ-міністр Мікалай Бузо. Ён адзначыў, што пасля комплекснага вывучэння тэхнічнага стану Драздоў адпаведныя гарадскія службы прыйшлі да высновы аб неабходнасці поўнамаштабнай рэканструкцыі пасёлка. Замежным дыпламатам, якія пакінуць пасёлак Драздзы, прапанаваны на выбар іншыя памяшканні.

**Помнік Льву Сапегу**

Улады Слоніма падтрымалі ініцыятыву мясцовых жыхароў узвесці ў горадзе помнік вядомаму дзяржаўнаму і грамадскаму дзеячу Льву Сапегу. У часы Вялікага княства Літоўскага ён быў слонімскім старастам і многае зрабіў для развіцця горада. У канцы XVI стагоддзя ў горадзе адкрылася буйная ткацкая вытворчасць, узніклі шматлікія прамысловыя прадпрыемствы. Некалькі гадоў таму адной з плошчаў Слоніма вернута імя Льва Сапегі, якое яна мела да вайны. Хутчэй за ўсё тут і будзе ўзведзены помнік.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- Сяброўскі ўспамін пра Сяргея Харкевіча.
- Інтэрнэт у Гайнаўскім белліцэі.
- Беспрацоўе ў Бельску і наваколлі.

# Прадалі сэрца фабрыкі

**У Орлі, багатай у залежы высакаякаснай гліны, не здзейсніліся намеры пабудаваць новы керамічны завод. Адведзеныя на гэту мэту пляц і артэзіянскую студню гмінныя ўлады прадалі прыватнай асобе. У 1995 годзе спыніў працу мясцовы кафляны завод.**

У 1970—80-х гадах тагачасныя гмінныя ўлады планавалі ўзвядзенне новай школы, амбулаторыі, жылых блёкаў і новага керамічнага завода. Асабліва абнадзейваў керамічны завод, які меў стварыць дадатковыя месцы працы для мясцовага насельніцтва. Залежы гліны знаходзяцца па адным баку шашы з Орлі ў Рудуты і там меў быць узведзены новы цэх, а па другім — мелі стаяць жылыя блёкі для рабочых і кіраўнічых кадраў. Ажыццявіць поўнасцю планы не ўдалося. Сёння стаіць толькі школа, а недаканчаны жылы блёк і фундаменты амбулаторыі разбураюцца. Залежы гліны спакойна чакаюць лепшага часу. Хвалюецца толькі арлянскае грамадства з-за продажу прыватнаму прадпрымальніку пляца, на якім меў стаяць керамічны завод.

Пра продаж гэтага зямельнага ўчастка дапытваліся радныя на сесіі Гміннай рады 30 сакавіка 1998 г., але яснага адказу не атрымалі. З размоў з гміннымі чыноўнікамі вынікае, што саракагектарныя залежы гліны далей застаюцца дзяржаўнай уласнасцю. Прададзены быў толькі 2,5-гектарны ўчастак і артэзіянская студня, якіх у сакавіку 1992 г. купіў прадпрымальнік з Беластока. Новы ўладальнік гэтага пляца звольнены ад падаткаў на пяць гадоў. Да гэтай пары нічога ён яшчэ не зрабіў, хаця многа заплаціў гміне за грунты, прызначаныя на гаспадарчую дзейнасць.

Арлянскія радныя мяркуюць, што паміж гмінай і прадпрымальнікам павінна быць заключана дамова аб тэрміне ўзнаўлення гаспадарчай дзейнасці. Раней гаварылася, што будуць новыя месцы працы, а цяпер — маўчанне. Гміна прадала зямлю — сэрца планаванай фабрыкі — і студню, якая мела быць запасной крыніцай вады для мястэчка, а новы ўладальнік трымае гэта нявыкарыстанымі.

На маю думку, трэба быць аптымістам. У 1995 годзе, пасля стогадовай дзейнасці, у Орлі быў закрыты кафляны завод. Частку абсталявання прадалі, частку расцягнулі людзі, будынкі сталі разбурацца. У 1997 г. купіў іх жыхар Кашалёў Сцяпан Хурса, які намерваецца добраўпарадкаваць іх. Трэба таксама спадзявацца, што справа керамічнай фабрыкі вырашыцца ў будучыні. Падляшша багатае не толькі глінай, але і іншымі багаццямі, напрыклад, рудой каля Райска. Калі нашы зялёныя лёгкія Польшчы не парасце пушча, то арлянскімі залежамі пакарыстаюцца будучыя пакаленні.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Гутарка аб рэформах

**7 мая 1998 года ў зале пасяджэнняў Гарадской рады Гайнаўкі адбылася сустрэча ваяводы Крыстыны Лукашук і куратара Веслава Ружаньскага з войтамі, бурмістрамі, раднымі і працаўнікамі самаўрадаў Гайнаўшчыны ў справе рэформы адміністрацыі, асветы і надзённых пытанняў.**

Ваявода Крыстына Лукашук пачала спатканне ад вестак пра паветы (у гэтым ліку і пра Гайнаўскі) і новыя ваяводствы. Паінфармавала яна пра кампетэнцыі, задачы і фінансы будучых паветаў і ваяводстваў. Гаварыла, што бальніцы, сярэднія школы, дарогі і справы, звязаныя з ахowай парадку, грамадскай дапамогай і будаўнічым кантролем гэта тыя дзялянкі, якімі будзе займацца павет. На спецыяльных макетах прысутныя знаёміліся з планаваным падзелам фінансавых сродкаў на дзейнасць урадавых, ваяводскіх, павятовых і гмінных структур. Паявіліся закіды, што надалей замнога грошай застанецца ва ўрадавых структурах. Будучыя змены ўспрымаліся па-рознаму, аднак прысутных больш цікавілі актуальныя справы.

У сувязі з гарачай справай ліквідацыі пасажырскага чыгуначнага транспарту вакол Гайнаўкі ваявода інфармавала, што яна супраць пастаноў чыгункі ў гэтай справе, але згодная на альтэрнатыўныя вырашэнні. Прапанавала пабудаваць новыя дарогі замест чыгуначнага транспарту, калі б былі на гэта грошы з дзяржаўнага бюджэту. Жыхары Гайнаўшчыны не бачылі тут альтэрнатыўных вырашэнняў.

— Наша грамадства не дасць падтрымкі для замяшчэння чыгуначнага транспарту аўтобусным, бо ведаем, якія ў нас зімы, — гаварыў радны Яўген Сачко, старшыня Грамадскага камітэта абароны пасажырскага чыгуначнага транспарту на Гайнаўшчыне.

— Ніхто не дасць нам гарантыі, што праз год не будзе такой зімы, што не зможам выехаць. Калі аднак чыгуначныя ўлады вырашаць аб ліквідацыі пасажырскага транспарту, не прапусцім ніводнага цягніка з хімікатамі.

— Вы ў Беластоку спіце спакойна, а ў нас кожную ноч не ведаем, ці не здарыцца нейкі выбух, — уключыўся ў размову дырэктар Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы Міхал Садоўскі. — Калі ў Беластоку выскачылі з рэек вагоны, паставілі крыж і цягнікі ўжо не ездзяць.

Як выявілася ў час гутаркі, фактарам, які стрымлівае людзей ад мясцовага пратэсту супраць перавозаў небяспечных тавараў, гэта месцы працы на чыгунцы.

Прадстаўнікі гміны Чаромха закранаві справы мадэрнізацыі перахода ў Полаўцах і цяжкага транспарту каля мяжы. Бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк інфармавала пра падрыхтоўку памяшканняў для будучых павятовых устаноў. Гаварыла, што ўсе гміны, якія ўвойдуць у Гайнаўскі павет адмовіліся прыняць назву Белавежскі павет. Закранала яна праблемы, звязаныя з адукацыяй, недахопам фінансавых сродкаў на школы, будучай рэформай асветы і планаванай ліквідацыяй бібліятэк.

— Я толькі запрапанаваў дырэктару Метадычнага асяродка ўдасканальвання настаўнікаў, спадару Яну Зенюку, каб зэканоміў крыху сродкаў, — гаварыў куратар Веслаў Ружаньскі. — А тут чую, што ён прапануе пераносіць педагагічныя бібліятэкі ў школы. Спадзяюся, што дырэктар Зянюк больш ашчаднасцяў будзе рабіць у сябе ў Беластоку.

У час дыскусіі аб школьнай рэформе куратар Ружаньскі гаварыў пра школьныя талоны, якія будзе мець кожны вучань, а за якімі пойдуць грошы ў канкрэтныя школы. Ад таго, колькі будзе ў школе вучняў залежаць будзе фінансавая падтрымка павета (сярэднія школы) і гміны (падставовыя школы). Гаварылася, што ўжо канчаткова вырашаюцца справы гімназіяў, якія паўстануць у верасні 1999 года. Куратар інфармаваў яшчэ, што запазычанасць школ па абаграванні будзе ліквідавана.

Як сказалі ўдзельнікі спаткання, абавязак куратара і ваяводы — хваліць усе рэформы.

**Аляксей Мароз**

# niwa@kurier-poranny.com

У момант, калі зачыняем гэты выпуск нашай газеты, можна ўжо з нашай рэдакцыяй звязвацца па электроннай пошце — e-mail (адрас у загалоўку).

Наша падключка ў сетку Інтэрнэт стала магчымай дзякуючы добразычлівасці і фінансавай дапамозе наступных устаноў:

— Беларускага саюза ў Польшчы,

— Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь”,

— рэдакцыі беластоцкай штодзённай газеты „Kurier Poranny”.

Беларускі саюз і Цэнтр грамадзянскай адукацыі прафінансавалі нам кошт мадэма і паслугі Інтэрнэту. Рэдакцыя газеты „Kurier Poranny” згадзілася быць нашым *правайдэрам* (паставшчыком паслугі Інтэрнэту) і аказала неабходную тэхнічную дапамогу.

Паштовая скрынка e-mail — гэта наш першы крок у Інтэрнэт. Наступным мае быць свая старонка, г.зв. *сайт*, на якім будзем паказваць выбраныя тэксты з традыцыйнага (папяровага) выдання „Нівы”. Наша старонка ў Інтэрнэце ўзнікне неўзабаве — праз тыдзень-два. Паведамім аб гэтым асобна.

Пры выданні „Нівы” ў Інтэрнэце намерваемся стварыць дадатковы інфармацыйны рэсурс, які датычыўся б жыцця беларусаў Беласточчыны. Напэўна знойдзецца ў ім інфармацыя пра кніжныя выданні беларусаў Беласточчыны, рэцэнзіі на іх, а таксама і інфармацыя якім чынам выданні гэтыя можна набыць. Чакаем таксама на заўвагі, што ў такім інфармацыйным рэсурсе хацелі б бачыць Вы.

Дасыланыя нам па электроннай пошце матэрыялы для друку павінны быць у форме асобных файлаў, уключаных у ліст як załącznik/attachment/enclosure. Файлы гэтыя павінны быць запісаны як RTF (Rich Text Format) — запіс такі дазволіць нам апрацоўваць і друкаваць тэксты, узніклыя не толькі ў розных рэдактарскіх праграмах, але і на розных камп'ютэрных сістэмах (hardware platforms).

**Аляксандр Максімюк**

**Фестываль музыкі Маладой Беларусі**
**Гарадок, Беласточчына, 17-18.07.1997**

# басовішча

**Беларускае аб'яднанне студэнтаў**
**Беласток, вул. Заменгафа 27, тэл./факс (0-85) 435 022**

**Увага!**

**Пачынаем!**

Праводзім адбор удзельнікаў конкурсу сёлетняга выпуску Фестывалю. Кожны можа зайграць, выступіць на сцэне разам з самымі лепшымі выканаўцамі і выйграць! Калі лічыце, што Ваш калектыў павінен запрэзентавацца на нашым незвычайным мерапрыемстве, прыйдзіце да нас!

Да 30 чэрвеня на вышэйпададзены адрас фестывальнага бюро дашліце касету з запісам сама меней пяці Вашых твораў (можа быць і непрафесійны запіс), у тым ліку з трыма песнямі на беларускай мове. Да касеты трэба прылажыць разборліва напісаныя словы ўсіх песень, састаў калектыву і актуальны ў чэрвені і ліпені г.г. адрас або тэлефон. Пра вынікі адбору паведамім Вас пісьмова ў першых днях ліпеня.

Ну, дык давайце зайграем! Удзельнікаў чакаюць узнагароды, слава і чароўная забава!

# Перад Фестывалем

[1 ☞ праця́г]

падабаецца, і што, на яго думку, можна памяняць, а пасля многія прапановы ўводзілі ў жыццё. Думаю, што выпрацавалі аптымальную мадэль. Адыдзем сёлета толькі ад мінулагодняй формулы, калі адзін дзень быў адведзены польскім свецкім аматарскім хорам. У гэтым годзе кожны дзень будзе міжнародным днём.

***— Можа ў гэтым годзе паявяцца прадстаўнікі новых краін?***

— Так, упершыню ў гэтым годзе выступяць у нас хор евангелісцкіх спевакоў з Нямеччыны, хоры з Македоніі, Кіпра і з Егіпта. Цікава, што якраз яны знайшлі дарогу да нас самі, а не мы да іх. Прыслалі нам матэрыялы і заявілі, што маюць ахвоту прыняць удзел у Фестывалі.

***— Апрача вялікай колькасці ўдзельнікаў на Фестываль прыязджае шмат турыстаў. Ці запланавалі Вы дадатковыя мерапрыемствы ў гэты час?***

— Штогод побач Фестывалю царкоўнай музыкі адбываецца другі фестываль у Белавежскай пушчы, калі госці і турысты вечарамі выязджаюць у Старую Белавежу або іншыя месцы ў пушчы і слухаюць лясныя канцэрты. Штогод арганізуем таксама выстаўкі мастакоў. У мінулых гадах паказвалі працы Ірэнэўша Койлы, Ані Шыло і Уладзіміра Наўмюка. У гэтым годзе можна будзе пабачыць іконы з Іканапіснай школы ў Бельску-Падляшскім, з якімі прыедзе айцец Лявонцій Тафілюк, які пачынаў пабудову нашага Сабора Святой Тройцы.

***— У мінулых гадах удзельнікі мерапрыемства выступалі ў Беластоку, але не толькі. У якіх мясцовасцях запланаваны канцэрты сёлета?***

— Ужо чацвёрты раз будзе канцэрт у евангелісцкім касцёле ў Варшаве, што па вуліцы Крэдытовай, трэці раз у Кракаве, а плануем таксама ў Гданьску, Сувалках і Холме. Ад чацвярга пачнецца таксама субфестываль у Саборы Святога Духа ў Беластоку. Карыстаючыся нагодай, хацеў бы я падзякаваць усім тым, якія аказваюць фінансавую дапамогу галоўным арганізатарам — ГДК і Фонду „Царкоўная музыка” і заахвоціць іншых да дапамогі. Наш банкаўскі рахунак:

**PBK S.A. w Warszawie**
**Oddział w Hajnówce**
**Nr 11101170-1137-2700-1-31**

***— Дзякую за гутарку.***

# Нельга здзекавацца з „Пагоні”

Новая вайна за помнікі гэтым разам выбухла ў Беластоку. Справа помнікаў для непалякаў у Польшчы, як мне здаецца, ёсць таксама невырашальнай, як праблема туалетнай паперы пры сацыялізме. Мелі сваю помнікавую вайну немцы ў Аполі, украінцы ў Пярэмышлі, цяпер узнік адкрыты канфлікт у Беластоку. Але тут справа яшчэ больш ускладнілася, таму, што мясцовыя беларусы, ці хутчэй людзі беларускага паходжання, традыцыйна хочуць прыхавацца за ўсялякімі заслонамі. Раней такой заслонай быў сацыялізм, цяпер хрысціянства-праваслаўе. Вядома, што мае ўзнікнуць помнік загінуўшым праваслаўным у 1939-1956 гадах. Але помнікі ставіцца дзеля нейкай ідэі. Ініцыятары пабудовы помніка аднак нічога не ўспамінаюць, што прысвечаны ён мае быць загінуўшым за праваслаўнае веравызнанне.

**Задзіночаны беларускі лагер**

Справа гэтага помніка даўно страціла рэгіянальны характар і стала прадметам дыскусіі на дзяржаўным узроўні. Пішуць на гэту тэму цэнтральныя газеты і часопісы, а варшаўскія журналісты з насалодай друкуюць выказванні вядомых тутэйшых экуменістаў — Юзэфа Марошка ці Адама Чэслава Дабраньскага. Дзеячаў Царкоўнага брацтва, Рускага культурнага таварыства, Саюза ўкраінцаў Падляшша, Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Беларускага дэмакратычнага аб'яднання прадстаўляюць яны як задзіночаны беларускі лагер („Polityka”, nr 18). Поўная неразбярыха.

**Пры чым тут „Пагоня”**

Тым часам з гэтага, што зроблена і сказана на тэму помніка ў Беластоку немагчыма ўлавіць ніякай лагічнай цэласці. Помнік мае мець выгляд калоны з выявай „Пагоні” наверсе. „Пагоня” тым часам ад вякоў была беларускім нацыянальным сімвалам і не надта вядома, што супольнага з гэтай выявай мелі салдаты польскай арміі, якія змагаліся за Польшчу пад знакам белага арла супраць гітлераўскай акупацыі Польшчы ў верасні 1939 года, на франтах Італіі ці Заходняй Еўропы ў 1944 годзе. Што маюць супольнага з „Пагоняй” праваслаўныя жаўнеры савецкай арміі, мабілізаваныя ў 1941 годзе, ці партызаны з-пад Гарадка або Кляшчэляў, якія пад знакам сярпа і молата змагаліся ў радах савецкага падполля. Першыя гінулі за Польшчу, якой улады не адракліся ні ад кусочка беларускай зямлі, другія — за Савецкі Саюз, у якім „Пагоня” ўспрымалася як сімвал злачынства. Адны і другія ў сапраўднасці змагаліся за тое, каб „Пагоня” не стала гербам БЕЛАРУСКАЙ дзяржаўнасці. Што супольнага з „Пагоняй” маюць украінцы „Підляшша” ці цёткі Русского культурного общества? Чаму ідэя гэтага помніка не змяшчае тых, якія падчас вайны змагаліся хаця б за марыянетачную Беларусь, але пад знакам „Пагоні”? Чаму сімвалам „Пагоні” маюць быць ушанаваны тыя „нашы хлопцы”, якія пхалі пасля вайны ў турмы сапраўдных паклоннікаў усяго таго, што змяшчае знак „Пагоні”? Такім сімвалам можна, аднак, ушанаваць, напрыклад, памяць тых беларусаў, якіх „Буры”, „Млот” ці „Лупашка” мардавалі толькі за тое, што былі яны беларусамі.

**Лукашэнка любіць „Пагоню”... але ў Беластоку**

Невядома таксама дзеля якіх мэтаў хоча дапамагаць у пабудове помніка з выявай „Пагоні” ўрад лукашэнкаўскай Беларусі. Гэты нацыянальны сімвал беларусаў знішчаўся і знішчаецца там усімі органамі дзяржаўнага апарату, а прэзідэнцкая прапаганда прадстаўляе яго як пры Сталіне, Хрушчове ці Брэжневе. І гэта зразумела. „Пагоня” з'яўляецца сімвалам незалежнасці Беларусі, а Лукашэнку цяжка лічыць прыхільнікам вольнай і самастойнай Бацькаўшчыны. Таму дзіўна, што спрыяе ён узнікненню такой беларускай нацыянальнай выявы ў Беластоку.

**Чаму не міліцыянерам?**

Не разумею таксама тых беларускіх дзеячаў Беласточчыны, якія маюць толькі адну засцярогу, каб помнік не быў прысвечаны памяці „utrwalaczy władzy ludowej”. Іншае ёсць месца армоўца ці міліцыянера ў 1944-1947 гадах у гісторыі Польшчы і палякаў, іншае ў гісторыі беларусаў Беласточчыны. З беларускага пункту гледжання варта паставіць адно пытанне: чым для беларускасці былі лепшыя салдаты Андэрса ад пээнэраўскіх міліцыянераў? Удзел нашых сялян у органах камуністычнага апарату ўлады часта быў формай самаахове. Шмат вёсак на Бельшчыне ацалела толькі таму, што большасць мужчын запісалася ў рады ОРМО і кругласутачна ахоўвала сваю ваколіцу. Калі б у Залешанах была, напрыклад, група дружыннікаў-добраахвотнікаў, тады, хто ведае, ці не жылі б сёння тыя дзеткі, якіх „Буры” жывымі спалілі разам з бацькамі.

Нельга аднак выкарыстоўваць „Пагоню” ў гонар праваслаўных, якія загінулі, выконваючы абавязкі ў органах службы бяспекі ў 1948-1955 гадах. Было б гэта прафанацыяй беларускага нацыянальнага сімвала, а таксама крыўдзіла б памерлых. Справа, за якую яны змагаліся, не мела нічога супольнага з тым, што прадстаўляе „Пагоня”. Калі нехта хоча ўшанаваць іх памяць, можна, хіба, прыдумаць нешта іншае, што адлюстроўвала б сэнс іх дзейнасці.

**Яўген Міраповіч**

# Няма цікаўнасці да Беларусі

Адгалоскі

Я быў крыху здзіўлены, прачытаўшы інтэрв'ю Алега Латышонка з маім старым сябрам Джэймсам Дынглі (Лонданскі універсітэт), што ў брытанцаў „няма цікаўнасці да Беларусі” і што ён „назначыў” мяне старшынёй Англа-беларускага таварыства. (Праўду кажучы, большасць брытанцаў не „цікавіцца” нават Паўночнай Ірландыяй). Спадар Дынглі падаў у адстаўку на апошнім гадавым агульным сходзе пасля шматлікіх гадоў адданага і паспяховага старшынства і Рада Таварыства звычайна назначыла мяне на яго месца. Я ўпэўнены, што не меў намеру паменшваць ролю Таварыства, якое прадаўжае арганізоўваць гадавыя цыклы дакладаў і выдаваць чарговы, беларускамоўны, нумар сваіх „Occasional Studies”. У 1997 г. мы таксама пачалі выдаваць англамоўны квартальны інфармацыйны бюлетэнь „The Belarusian Chronicle”, які стараецца падаваць інфармацыю аб усёй беларускай дзейнасці ў Вялікабрытаніі.

Гэта цяжкі час для Беларусі і для эміграцыі. Як было гэта ў выпадку польскай і іншых грамадскасцяў у Лондане, адбыўся магутны Drang nach Westen з былых савецкіх рэспублік, які і змяняў характар эміграцыі. Даўно заснаваныя таварыствы цяпер мусяць прыстасавацца да новых абставін альбо знікнуць. Я ўпэўнены, што такі лёс не пагражае Англа-беларускаму таварыству. Калі няма цікаўнасці да Беларусі, дык якім чынам Таварыства Брытанія — Беларусь, іншая, але не саперніцкая арганізацыя (якой мы абодва з Джымам сябры) узнікла ў 1997 г.? Што з узніклым апошнім часам Трэстам Абердзін — Гомель, партнёрствам Мендып — Светлагорск, аднойленым блізняцтвам Мінска і Нотынгема, сябрамі Гомеля і недзе дваццаццю англа-беларускімі арганізацыямі ў гэтай краіне, якія ладзяць сустрэчы, рэлігійныя службы, з паўсюдным ростам абмену груп дзяцей Чарнобыля, хораў, вайсковых аркестраў, спартсменаў, скаўтаў, настаўнікаў, парламентарыяў і бізнесменаў? Сапраўды, ёсць тут, як паказвае Джым, вялікая, добра арганізаваная папулярнасць новай, багатай нафтай Расіі, але ж таксама маем дачыненне з пастаянным ростам свядомасці (нават на маёй мясцовай пошце) накконт толькі што спазнанай Albaruthenia — White Russia — Byelorussia — Belaruś. „Англіец ...”, як кажа старая песня, патрабуе часу „каб распазнаць новыя акалічнасці”. Эміграцыйныя групы праяўляюць натуральную схільнасць да пэўнай парафіянічнасці ў поглядах. Але ўсё гэта мяняецца і будзе мяняцца, нягледзячы на перакананні сталага пакалення. Няўдача ў тым можа выклікаць збянтэжанасць тутэйшага грамадства і брак шырэйшага зацікаўлення такой Беларуссю, якую, здаецца, прадстаўляюць старыя эмігранты. Ідзе пра Беларусь сёння і яе інтэграцыю ў сям'і еўрапейскіх нацый. На маю думку, нам пашанцавала мець у такі час партнёра ў асобе Уладзіміра Шчаснага, беларускага пасла, чалавека добрых манер, тактоўнага і красамоўнага.

Працэс можа аказацца цяжкім і зацягнуцца на пяцьдзесят гадоў. Не сумняваюся, што з такога гледзішча Джэймс Дынглі даваў сваё інтэрв'ю, мабыць, занадта песімістычнаму Алегу Латышонку.

З пашанай

**Гай Пікарда, Старшыня Англа-беларускага таварыства**

**Адказ:** Паважаны Спадар Пікарда. Джэймс Дынглі ў сваім інтэрв'ю не гаварыў пра тое, што ён „назначыў” Вас старшынёй Англа-беларускага таварыства, а толькі аб тым, што ён „перадаў” Вам старшынства, бо старшыня, які ўступае, звычайна перадае функцыю новаабранаму старшыні.

Інтэрв'ю сапраўды атрымалася песімістычным, пэўна ж ад успамінаў пра тых супольных знаёмых, якіх ужо няма ў жывых.

**Алег Латышонак**

# Малады Фронт — пад крыміналам!

**Мінск**

Крымінальную справу, у якой фігуруе „Малады Фронт”, узбудзіла Мінская міліцыя. На гэты раз маладафронтаўцам інкрымінуецца „злоснае хуліганства”. Нагадаем падзеі. Як вядома, 22 сакавіка 1998 г. мінская моладзь наладзіла несанкцыянаванае шэсце па праспекце Скарыны на 80-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак каля цырка дарогу ім перагарадзіў кардон спецназа, у бок якога маладыя людзі кінулі дымавую шашку, пасля чаго моладзь вырашыла разысціся. Нагадаем таксама, што за гэтыя падзеі 22 сакавіка 1998 г. міліцыя затрымала каля 40 маладых чалавек з розных гарадоў Беларусі.

Крымінальную справу вядзе следчы Цэнтральнага РАУС Мінска Андрэй Кучма; па арт. 201 ч. 2 Крымінальнага кодэкса прадугледжана пакаранне да пяці гадоў пазбаўлення волі.

**Магілёў**

Магілёўская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па фактах з'яўлення ў горадзе надпісаў палітычнага характару. Магілёў апошнім часам сістэматычна распісваецца незалежнымі, антыпрэзідэнцкімі, праваабарончымі лозунгамі. Міліцыя і спецслужбы Магілёва звязваюць гэтыя надпісы з мясцовай арганізацыяй Маладога Фронту. На допыт у міліцыю ўжо выклікалі некалькі чалавек з кіраўніцтва МФ.

**Акцыя ў падтрымку палітвязняў**

5 мая 1998 г. увечары каля 400 чалавек сабралася на плошчы Якуба Коласа ў Мінску, на акцыю арганізаваную Маладым Фронтам у падтрымку палітвязняў. Маладыя патрыёты прайшліся шэсцем па цэнтральных вуліцах Мінска, скандзіруючы антыпрэзідэнцкія, незалежніцкія, праваабарончыя лозунгі. Калі калона моладзі дайшла на дазволенае ўладамі месца мітынгу, яна налічвала ўжо каля 1 000 маладых людзей. На плошчы Парыжскай камуны моладзь спаліла некалькі партрэтаў прэзідэнта Лукашэнкі. Пасля кароткага мітынгу моладзь пачала разыходзіцца. Аднак міліцыя, якая вельмі пільна сачыла за дэманстрацыяй, схапіла каля дзесятка чалавек і даставіла іх у Цэнтральны РАУС Мінска. У пратаколах міліцыя напісала, што „маладыя людзі парушалі грамадскі парадак ў час правядзення маніфестацыі”. Такім чынам акцыя ў падтрымку палітвязняў скончылася новымі затрыманнямі і арыштамі.

**Ян Абадоўскі**

# Міністэрская мода

Адгалоскі

„Цяпер вярнулася мода на фолькавую музыку і трэба дапамагчы меншасцям у развіцці і папулярызацыі іх музычнай творчасці, якая ўзбагачвае польскую культуру” — такую больш-менш палітыку на культурнай ніве будзе весці дзяржава („Ніва” № 18 ад 3.05.1998 г. — „Менш на выдавецкую дзейнасць”). Згодна з модай. За год мода зменіцца, палітыка дзяржавы таксама. Затым трэба сачыць за модай. Калі модныя будуць духавыя аркестры, Міністэрства культуры і мастацтва грашовыя сродкі прызначыць на аркестры, каб меншасць і ў той галіне ўзбагаціла польскую культуру. Добра, што хоць нашы суродзічы будуць спяваць па-беларуску. Калі знойдуцца грошы на фолькавую музыку, а выглядае на тое што так, то яшчэ больш чым дагэтуль паплыве песня палямі і лугамі, а адна імпрэза будзе паганяць другую. І так, дарагія беларусы, пры дапамозе дзяржаўнай палітыкі (і без уплыву БГКТ) так з аднаго, як і другога боку мяжы памаленьку загіне выдавецкая дзейнасць. Прападуць нават тыя астраўкі як „Ніва”, гістарычныя выданні ці літаратурныя зборнікі „Беларусь”.

**Міхась Куптэль**

# Экзамены на атэстат сталасці

**— Тэмы прац па беларускай і польскай мовах былі вельмі простыя і кожны без асаблівай падрыхтоўкі мог іх напісаць паспяхова, — сказала вучаніца Гайнаўскага белліцэя.**

5 мая 1998 года ў сярэдніх школах пачаліся экзамены на атэстат сталасці. У Гайнаўскім і Бельскім белліцэях пісаць працы на польскай мове прыйшлі 252 асобы (134 у Гайнаўцы і 118 у Бельску-Падляшскім). Да выбару былі 4 мовы. Вучні вырашалі ці пісаць пра свае ўлюбёныя творы, ці пра адзінцтва на падставе цытаты з Адама Міцкевіча, ці рабіць параўнаўчы аналіз вершаў. У гэтым годзе паявілася таксама новая формула прац — аналіз публіцыстычнага артыкула.

— Калі прачыталі першыя тэмы, вучні ўспрынялі іх воплескамі, — сказаў Ян Місяюк, настаўнік польскай мовы ў Гайнаўцы. — Тэмы не былі складанымі і вучні, якія ведалі прынамсі два творы, маглі напісаць добрую працу.

6 мая вучні пісалі пісьмовыя працы (згодна з выбарам) па гісторыі, біялогіі, матэматыцы і замежных мовах.

— Пісала я пра сталінізм, — успамінала Кацярына Анушка з Бельска. — Хаця ведала матэрыял, сеўшы насупраць куратара пачала хвалявацца.

7 мая вучні прыйшлі пісаць працы па беларускай мове. Звольнены былі лаўрэаты і фіналісты Алімпіяды беларускай мовы. Традыцыйна ўжо былі 3 тэмы:

1. Кожны народ мае сваю літаратурную спадчыну. Маюць яе таксама беларусы, якія пражываюць у польскай рэчаіснасці. Што табе вядома пра беларускую літаратурную плынь у Польшчы на працягу апошняга саракагоддзя?

2. Мая Бацькаўшчына — мінулае і сучаснае.

3. На аснове вядомай табе літаратуры дакажы слушнасць слоў М. Барэйшы: „Памяць аб мінулым робіць нас людзьмі".

— Пытанні былі простымі, але і трапнымі, — сказала Зінаіда Дземянюк, настаўніца беларускай мовы ў Бельскім белліцэі. — На падставе кожнай працы можна было праверыць веданне літаратуры і ўмеласць вучняў.

— На маю думку, тэмы былі замала амбітныя, — сказала Вольга Сянкевіч, настаўніца Гайнаўскага белліцэя. — Трэба, каб на падставе тэмаў вучні маглі выказацца больш адкрыта, спантанна, каб было менш апісання, а больш сінтэзу і ўласных думак.

Найбольш папулярнай была першая тэма, менш матурыстаў пісала на другую, а зусім мала на трэцюю. Ужо традыцыяй стала, што адна тэма ў нейкай ступені тычыцца „белавежцаў" і магчыма таму ліцэісты выбіраюць яе найчасцей. Другая тэма давала магчымасць выказацца без спасылкі на канкрэтную літаратуру. Менавіта ў працах па гэтай тэме вучні маглі выказаць свае патрыятычныя думкі, пісаць пра тое, што найдаражэйшае. У выпадку трэцяй тэмы, хаця цытата была зразумелай, постаць Міхася Барэйшы (1950-1990), малавядомая. У Гайнаўцы ні вучні, ні настаўнікі не чулі пра такога пісьменніка.

Калі 11 мая абвешчаны былі рэзультаты пісьмовых экзаменаў выявілася, што ўсе абітурыенты Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў паспяхова прайшлі першы этап (без адзінак). Асабліва па беларускай мове многа было вучняў, якія звольнены былі з вусных экзаменаў (сваю вучобу закончылі з чацвёркай або пяцёркай і пісьмовыя працы напісалі на пяцёрку або шасцёрку).

— Узровень прац па беларускай мове даволі добры, — заявіў Ян Карчэўскі, настаўнік Гайнаўскага белліцэя. — Ёсць працы вельмі добрыя, у якіх тэмы апрацаваны цікава і вельмі арыгінальна, а выказванні вучняў абгрунтаваныя глыбокімі ведамі па літаратуры і гісторыі. Аднак ёсць і працы слабенькія, дзе вучні рабілі разнародныя памылкі.

Пяць прац ацанілі мы на ацэнкі выдатныя (6), дзе выказванні былі вельмі трапнымі і арыгінальнымі, якія абапіраліся на ведах па літаратуры і гісторыі, — заявіла настаўніца Зінаіда Дземянюк. — Хаця некаторыя, пішучы пра Бацькаўшчыну, спасылаліся на Беларусь, пасля вярталіся да сваёй мясцовасці, свайго месца нараджэння і пражывання.

— Хаця многа было прац вельмі добрых, мы не рашыліся ставіць шасцёркі, — сказала настаўніца Вольга Сянкевіч. — Вучні рабілі аналізы, умела спалучалі мінулае з сучаснасцю, спасылаліся на літаратуру і гісторыю. У нас мы не сустрэліся, каб вучні спалучалі Бацькаўшчыну з Беларуссю. Найбольш роднымі ёсць месцы пражывання вучняў, іх родныя мясцовасці і наваколная прырода.

Пасля абвяшчэння рэзультатаў пісьмовых прац не было часу на адпачынак. Адразу пачаліся вусныя экзамены.

**Аляксей Мароз**

# Як шэры кот стаў шэрыфам

***Różowieje żurawinka, w słońcu już dojrzewa, czerwienieje i się śmieje, cóż jej więcej trzeba.* Спадзяюся, што гэтыя словы нагадваюць вам нешта знаёмае. А калі б вы яшчэ пачулі музыку, не было б ніякага сумнення — гэта тое, што па-беларуску спявае дзіцячы калектыў „Журавінка" з Пачатковай школы н-р 3 у Бельску: *Журавінка, журавінка, вузенькі лісточак, у маленькай журавінкі кветка, як званочак.***

На ўроках беларускай мовы ў першым класе мая жонка развучвала з дзецьмі песні. Моцна здзівіла яе, прытым, адна дзяўчынка. Як толькі возьмуць песню з касеты „Журавінка", якую з аднайменным калектывам падрыхтаваў дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук, дык тая дзяўчынка спявае, але па-польску. І так, песня ў песню.

Дзяўчынка вывучыла песні з касеты „Dyrli-dyrli, hop-sa-sa", выдадзенай у... Астралэнцы. Вокладка інфармуе, што на касеце запісаны *Zespół Dziecięcy ze Szkoły Podstawowej w Wielbarku* (дзе гэта?), словы песень напісала Юстына Галонзка, а музыку аранжаваў Ірэнеуш Ярэма. Выпусціла касету фірма *AKME* са значкамі, якія абазначаюць аўтарскія правы і нават — увага! — з канцэсіяй Міністэрства культуры і мастацтва.

Пад дадзеным на вокладцы касеты нумарам тэлефона адазваўся нейкі аптовы склад зноўнай заходняй вопраткі. Але так, раней тут было нешта з касетамі. Спытайцеся па такім-то і такім нумары. Там адсылаюць яшчэ далей і так, памаленьку, даходзім да Ежы Кіека — уласніка фанаграфічнай фірмы *AKME*.

— Я цяпер займаюся рэлігійнай музыкай, але раней выпускаў таксама іншую. Некалькі гадоў таму трапіла ў мае рукі якімсьці цудам касета з беларускімі дзіцячымі песнямі. Не памятаю, ці я яе купіў, ці магу атрымаў у падарунку ад кагосьці з беластоцкіх сяброў. Не было на ёй нават вокладкі. Мы паслухалі і падалося нам, што гэта народная музыка. Я папрасіў знаёмага настаўніка спеваў зрабіць аранжыроўку.

— Я тады яшчэ працаваў у школе і для запісу касеты адрадзіў нават школьны калектыў, — кажа Ірэнеуш Ярэма. — Гэтая беларуская музыка вельмі спадабалася нашым дзецям, а паколькі мы не ведаем беларускае мовы, дык арыгінальныя польскія тэксты напісала мая сястра.

Вось прыклад „арыгінальнага" тэксту: *Szaro-bury szeryf kot, dumny, twardy tak jak młot, każdy szmeryk usłyszy* (націск на апошні склад) *i nie lubi on myszy* (з тагім жа націскам). А мне здаецца, што шэрыфам стаў той самы шэры кот, які *тоўсты быццам бегемот, носіць вусы да вушэй і не любіць ён мышэй.* Вельмі знаёмыя падаюцца таксама словы: *Ciepłe słowa ja znajdę i przy mamie je powiem. Mama, mama, mamusia, śpiewa tobie córusia, twoja mała córusia.* Словы *znajdę* і *powiem* зноў такі націскаюцца ў непрымальны для польскай мовы спосаб: на апошнім складзе.

Абсурднасць перакладу відаць таксама і ў іншых творах. Бо што значаць словы: *Zaprzągnijcie szóstkę koni za szerokie mosty (?), to pojedzie Weronika do pana starosty.* У гэтай песні ёсць і такое, абсалютна неграматычнае выражэнне: *Wyskoczyła starościna witać się z gośćiami.*

А ведаеце, што гэта за калыханка: *Idzie nocka ciemna już, mrok nadchodzi wkoło, dryń, dryń, dryń, dryń, dryń, dryń, nie jest tak wesoło*? Не ведаеце? Можа дапаможа другая строфка: *Słonko zajdzie w nieba kraj (!?), zaświeć mamuś lampę, Baj stary, dobry Baj, opowie nam bajkę.* Так, гэта той самы Бай, які *выходзіць па сцяне да маленькіх дзетак.*

— Вы гаворыце, што гэта не народная музыка, — здзіўляецца Ежы Кіек, — ну, дык трэба неяк скантактавацца з аўтарамі. Можа ведаеце іх каардынаты?

Самае дзіўнае, што Ежы Кіек сапраўды пазваніў у Бельскі дом культуры. І нават дамовіўся з Сяргеем Лукашуком і дырэктарам „тройкі" Васілём Ляшчынскім заплаціць за аўтарскія правы. Грошы невялікія, бо, як ён запэўніў, *kaseta marnie się sprzedaje*, але на новыя майкі „Журавінкам" хопіць.

* * *

Як паказвае гэтая гісторыя, рана яшчэ адпяваць беларускую культуру. Наадварот, вядзе яна ціхую экспансію на Польшчу і дайшла ўжо прынамсі да Астралэнкі. А які мае ўплыў на польскую паэзію! Радкі з песні „Журавінка": *Вельмі любіць жураўель ягадкі-кіслінкі, ну, а мы з табой кісель зварым з журавінкі* сталі інспірацыяй для такога макабрычнага вобразу *Wilki lubią jeść żurawie, sarenki i świnki. No i my z tobą pójdziemy zbierać żurawinki.* А каб вас воўк з'еў!

**Мікола Ваўранюк**

# Міжкультурная адукацыя

У днях 5-7 траўня г.г. у Супраслі адбылася чарговая міжнародная канферэнцыя, арганізаваная Факультэтам педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку, прысвечаная адукацыі чалавека, які пражывае ў зоне ўплываў некалькіх культур. Запланавана было зачытаць 55 рэфератаў, у якіх аўтары прадставілі свае роздумы наконт мадэлі адукацыі у аб'яднанай Еўропе. Як заўважыў прафесар Вітальд Тулясевіч з Вялікабрытаніі, ні Польшча, ні Беларусь пакуль што не знаходзяцца яшчэ ў Еўропе і таму цяжка прапанаваць гэтым краінам такія ўзоры адукацыі, якія былі выпрацаваны ў Англіі ці Нямеччыне. Дарэчы, як заўважыў прафесар Тулясевіч, немцы, якіх працэс развіцця нацыянальнай свядомасці спазняўся ў параўнанні да французаў ці англічан, хацелі пераняць ад гэтых народаў пэўныя ўзоры і закончылася гэта катастрофай, развіццём некантраляванага шавінізму, крывавымі войнамі. У Варшаве — заўважыў госць з Англіі — шмат на мурах расісцкіх лозунгаў, але палякі мусяць самі шукаць сродкаў, каб вылечыцца ад гэтай хваробы. Тэрапія за кошт вонкавых сродкаў вельмі каштоўная.

Шмат цікавых інфармацый пра міжкультурную адукацыю ў краінах Еўрасаюза прадставіў прафесар Віктар Рабчук з Кракава. Хаця краіны Заходняй Еўропы прынялі супольную філасофію адукацыі, якой асноўным прынцыпам мае быць пашана для іншых, чым свая нацыянальная, культур, на практыцы кожная дзяржава праводзіць сваю ўласную палітыку. Напрыклад, французы талерантна ставяцца да сваіх этнічных меншасцей толькі таму, што прымушаюць іх да гэтага міжнародныя законы і факт знаходжання ў структурах Еўрасаюза. Брэтонцам толькі пару гадоў таму дазволілі яны вучыцца на роднай мове і мець прозвішчы ў брэтонскім фанетычным запісе. Ад часу вялікай рэвалюцыі цэнтралізацыя была асноўнай мэтай палітыкі французскіх урадаў. Падобную палітыку праводзіў генерал Франка ў Іспаніі падчас свайго амаль саракагадовага кіравання дзяржавай. Апрача кастыльскай не дапускалася там да публічнага карыстання ніякая іншая мова. Дэмакратычныя ўлады Іспаніі ў васьмідзесятых гадах дазволілі ўсім правінцыям на свабодны выбар мовы. У Каталоніі, найбагацейшай краіне Іспаніі, толькі 10% жыхароў пасылае цяпер сваіх дзяцей на ўрокі кастыльскай мовы. Але без свабоды развіцця культуры кожнай этнічнай супольнасці, ва ўмовах дэмакратыі, немагчымым было б захаванне еднасці іспанскай дзяржавы.

Вельмі цікавы нарыс развіцця школьніцтва ў Заходняй Беларусі прадставіў прафесар Сяргей Яцкевіч з Брэста. Беларускае школьніцтва на гэтай тэрыторыі ўзнікла толькі падчас нямецкай акупацыі ў 1915-1918 гадах. Польскія ўлады вельмі хутка ліквідавалі гэтае школьніцтва. Пасля 1939 года саветы дазволілі ўсім народам на свабодны выбар школы, але ўжо ў 1940 годзе хутка наступала іх русіфікацыя. Нанава беларускае школьніцтва ўзнікла падчас гітлераўскай акупацыі. У 1941-1942 гадах было 3485 школ з беларускай мовай навучання, выдаваўся часопіс „Беларуская школа" ў двух варыянтах — для вучняў і настаўнікаў. Цяпер няма такога часопіса, — з жалем канстатаваў прафесар Яцкевіч.

Большасць зачытаных падчас канферэнцыі рэфератаў адрасаваўся, аднак, спецыялістам па педагогіцы. Дакладчыкі часта паўтаралі актуальныя слушныя лозунгі пра шматкультурнасць і еўрапеізацыю. Дзеці і моладзь, аднак, і так маральнасці і эстэтыкі вучацца на самых прымітыўных амерыканскіх фільмах, якія пастаянна дэманструюцца па ўсіх тэлеканалах.

**(ям)**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Максім Танк**

## *Мама*

Ты супакойся і не плач дарма!
Ну яшчэ раз паўторым мы ізнова:
Што атрымаецца, калі
да складу „ма"
Прыбавіць „ма"? Якое будзе
слова?

Падумай добра, вачанят не тры...
Але ніяк не можа Галя ўцяміць,
Што з нежывых складоў
у буквары
Ды можа атрымацца яе мама.

## *Матчыны казкі*

Па-рознаму людзі
Прыходзяць на свет.
Адных знойдуць
У агародзе ці ў красках,
Другіх — прынясе бусел,
Наш дамасед.
Але ўсіх гадуюць нас
Матчыны казкі,
Яны вучаць
Родную мову любіць,
На крылах юнацтва
Ўздымацца пад хмары,
З няпраўдай змагацца,
А з праўдай дружыць
І аб недасяжным
І сонечным марыць.
Таму на сваіх я шляхах
Нарачанскіх
Паставіў бы
Помнікі матчыным казкам.

# Міфы старой Беларусі

### 28. Шэшкі

Шэшкі — вольныя нячысцікі — уяўляюць нешта радаснае ў чартоўскім гурце, велічынёй яны рослай кошкі. Вёрткі, рухавы і ў той час легкадумны шэшка здольны быць выдатным чартоўскім сышчыкам, разведчыкам грахоў чалавека. Асабіста ён не змог бы ўхапіць ахвяру — самі чэрці глядзяць на шэшку як на блазнаватага, чалавека ён падкупляе гуллівасцю, гарэзлівасцю. Шэшка раптоўна набліжаецца да чалавека, дражніць, адрывае ад справы ў дарагі момант, хапае з-пад рук і выносіць прэч патрэбныя рэчы, цешыцца злосцю чалавека і тратаю часу на пошукі згубленага прадмета. У доўгія вечары, калі няма чаго рабіць чалавеку і ахопліваюць яго грэшныя думкі, шэшкі паяўляюцца гуртом. Такое прыставанне шэшак гуртом трапляецца адносна рэдка, бо жывуць і дзейнічаюць яны пераважна паасобку.

# Далёкі Месяц, Сонца і зоркі

Удзень мы бачым на небе Сонца і часамі бледны Месяц. Уначы неба ўсеянае зоркамі. Калі свеціць Месяц, тады мала зорак відаць, а калі няма Месяца, тады значна больш зорак.

У пагодную ноч неба прыгожае. Колькі ж думак, колькі летуценняў передумалі людзі, угл ядаючыся ў зорнае неба. Зоркі і ўдзень на небе, але тады мы іх не бачым. Іх святло пагашанае святлом Сонца. Калі б мы залезлі ў глыбокі калодзеж, тады ўдзень убачылі б адтуль зоркі.

Ці далёка ад Зямлі да Сонца і Месяца? Вучоныя ўжо палічылі гэтую адлегласць. Да Месяца, можна сказаць, зусім недалёка — усяго 384 000 км. Гэта толькі няцэлых 10 акружнасцей Зямлі па экватары. Самалётам, які ляціць з хуткасцю 300 км у гадзіну, вы заляцелі б на Месяц за 53 гадзіны і 20 хвілін.

Да Сонца намнога далей, бо 150 мільёнаў кіламетраў. Гэта адлегласць большая за адлегласць да Месяца ў звыш 390 разоў.

А да зорак яшчэ далей. Адлегласць да іх вымяраецца светлавымі гадамі. Светлавы год — гэта дарога, якую праходзіць прамень святла на працягу года. Колькі ж гэта кіламетраў? Паспрабуйце палічыць: прамень святла праходзіць 300 000 км у секунду.

Самай блізкай ад Зямлі зоркай з'яўляецца Альфа ў сузор'і Цэнтаўра. Святло ад яе ідзе да нас 3 гады. Каб уявіць сабе велічыню гэтай адлегласці, дапусцім, што з Зямлі падняўся да гэтай зоркі рэактыўны самалёт, які ляціць з хуткасцю 1 000 км у гадзіну. Гэты самалёт даляцеў бы да зоркі Альфа толькі праз 4,5 мільёна гадоў!

**Аліна Сіроцкая, ПШ у Чыжах**

# Муха-пяюха

*(беларуская народная казка)*

Жыла-была Муха-пяюха. Мела яна каляску і шэсць камароў. Запрэгла муха-пяюха камароў у каляску ды паехала на пагулянку. Едзе яна дарогаю, едзе шырокаю — бяжыць мышка:

— Добры дзень, пані! Як паню зваць-велічаць?

— Я муха-пяюха. А ты хто?

— А я па паліцах скрабатуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — скача жабка:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. А ты хто?

— А я па сажалках рагатуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць яны шырокаю — сядзіць на галінцы вавёрка:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. А ты хто?

— А я па елках скакуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю бяжыць заяц:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. Па елках скакуха. А ты хто?

— А я праз дарогу скок.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — ідзе воўк:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. Па елках скакуха. Праз дарогу скок. А ты хто?

— А я галодны воўк. Усіх вас паем.

Пачулі гэта камары, падняліся ўгору і паляцелі разам з каляскай. А галодны воўк пляскаў зубамі і пайшоў далей ні з чым.

# Польска-беларуская крыжаванка № 21

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ganek | Banał / Gust | | Pat / Łan | | | Oka |
| Sedes | | | | | | Ząb |
| Sowa | | | | | | |
| Atlas | | | | | As | |
| | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 17:**

Асвета, ар, таракан, падарунак, мана, Алёна, альт. Пах, стан, вада, мера, мара, акула, анёл, банан, кат.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Анэта Яканюк** з Нарвы, **Ева Загон** і **Мажэна Пушкарэвіч** з Бельска-Падляшскага, **Каміля Карповіч** і **Уршуля Ляўчук** з Гарадка, **Аня Пячынская** з Кнарыд. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

## *Вершы Віктара Шведа*

### Настаўніца мяняе тэмы

— Скажы нам, даражэнькі Саша,
Ты ж заўжды пільна
ў школу ходзіш,
Як жа настаўніца там ваша
Спраўляецца ў бягучым годзе?

— Наша настаўніца такая,
Што выклікае ў нас праблемы:
Як толькі нешта ўжо спазнаем,
Яна тады мяняе тэму.

### Чаму ў школу хадзіць я мушу?

Матулю запытаў Паўлуша:
— Чаму я ў школу хадзіць мушу?
Мама на гэта: — Недарэка,
Каб стаў разумным чалавекам!

— Я ўжо разумны дасканала,
Мая настаўніца сказала:
„Двух геніяў такіх у класе —
На пенсію ўжо выбірайся".

## *Пішуць школьнікі*

### Вясна

Што гэта за пара?
Прыходзіць пасля зімы
І вясёлым смехам блішчыць.
Дзе пройдзе,
Там зялёны дыван кладзе.
Дзе рукой даткне,
Там птушка ўгору ўзлятае.
Дзе нагой ступіць —
Кветкі растуць і цвітуць.
Дзе кіне кроплю вады,
Там вербы пачынаюць расці.
Дзе прабяжыць,
Там вецер праляціць.
Знаеце, што гэта за пара?
Гэта вясна!
Любімая пара года.
Гэта радасць і свабода.

### Вясна і хлопчык

— Хто ты?
— Гэта я
— Хто такі?
— Вясна!
— Не веру!
— Вер не вер,
Паглядзі на ручай,
На ваду ў рацэ,
Паглядзі як пралеска
Цвіце.
Як птушкі пяюць,
Глянь на зялёныя лугі
І што скажаш?
— Зялёныя.
— Паглядзі на дрэвы
Ў веснавой красе.
Цяпер ты верыш?
— Паверыў вясне.

**Вершы даслала Ева Анішчук, вуч. VIII кл. у Кленіках**

Ева жыве ў вёсцы Сапава. Яе вершы ў „Зорцы" друкуюцца ўпершыню.

# У Студзіводах іграла сонца



*Ішоў карагод з караваем і іконай св. Юрыя.*

Вясна спакушае нас сваёй свежасцю і прыгажосцю. І асабліва тых, хто жыве ў шматпавярховых блёках. Кожная вандроўка ці паездка за горад прыносіць ім невыказную асалоду. Таму і „Зорка” з радасцю прыняла запрашэнне на святкаванне Юр’я. Юр’еўскія абрады, як запэўнівалі Альжбета Тамчук і Дарак Фіёнік — арганізатары, мелі праходзіць сярод засеяных збожжам палёў у Студзіводах.

**Ішоў карагод з караваем**

Ля парога скансэна Дарка Фіёніка прывіталі мяне дзеці з караваем. Каравай — гэта адмысловы пірог, які пяклі спецыяльна для абрадавай гасціны. Для юр’еўскага святкавання каравай спякла цётка Юля Фіёнік.



*Сугубная малітва за ўраджай.*

У скансэне сустрэла я вучняў і настаўнікаў бельскай „тройкі”. Былі сярод іх рэдактары краязнаўча-культурнага часопіса „Бельскі Гостінэць”, удзельнікі краязнаўчых заняткаў, энтузіясты беларускага школьнага тэатра і тэатральная група Альжбеты Тамчук з Бельскага дома культуры. Якраз ішлі апошнія падрыхтаванні. Дзяўчаты пад запевам пяцікласніцы Ані ўспаміналі старыя песні. Увесь песенны рэпертуар састаўлялі вяснянкі і агулькі. Раней іх спявалі бабулі і прабабкі многіх дзяцей якраз веснавою парой. А трэба адзначыць, што выкананне такой песні даволі складанае. Аднак усё часцей назіраецца зацікаўленне арыгінальнай народнай творчасцю. На захадзе Еўропы расце мода на г.зв. этнічную музыку.

Святкаванне пачалося ўрачыстым абыходам часткі Студзіводаў. На чале карагода ішлі Аня Крукоўская з іконай св. Юрыя і Міхась Сцепанюк з караваем загорнутым у белы ільняны ручнік. За імі пяцікласніцы з вяснянкай „Ой, вясна-красна, што ты нам прынясла”.

**Цукеркі святога Юрыя**

Спачатку няёмка было таптаць сакавітыя пасевы Дарка Фіёніка. Але сам гаспадар заахвочваў:

— Калі ўсё абыдзем жыта і сугубна (шматгалоса) памолімся, збожжа вырасце буйнае.

З часам многія асмеліліся і кінулі ранейшую насцярожанасць. Сярод жыта дзеці знаходзілі зялёныя цукеркі, мабыць, падарунак святога Юрыя.

Юрый (па-царкоўнаму Георгій) значыць на грэчаскай мове селянін. Ён апякун пасеваў і хатняй жывёлы. На Юр’е ўпершыню выганялі ў поле кароў. Яшчэ напярэдадні свята выводзілі на начлег коней. Людзі лічылі, што такая практыка засцеражэ жывёлу ад драпежнікаў. Якраз у гэтую ноч святы Юрый замыкаў ваўкам зубы.

Юр’е найбольш урачыста спраўлялі пастушкі. У гэты дзень яны даставалі ад сваіх гаспадароў многа ежы, палілі вогнішчы і качаліся па расе. Юр’еўская раса рабіла іх дужымі і смелымі.

Звычайныя сяляне спраўлялі абрад агледзін ніў. Пасля абыходу частаваліся караваем і прынесенай ежай. Пад вечар моладзь ішла на рэчку ладзіць карагоды і пускаць па вадзе човенкі. Так было і ў Студзіводах. Абрады ўспрымаліся, перш за ўсё, як добрая гульня.



*Качаліся па жыце Дарка Фіёніка.*

**Качаліся па жыце**

Абрад куста быў нечаканым сюрпрызам. Дзеці прыбралі зялёнымі галінкамі свайго старэйшага сябру Янку. Вакол яго наладзілі карагод. Такім чынам нашы продкі прызывалі да свайго роду вяселле. Не менш радасці выклікала качанне па жыце. Паводле народнага павер’я юр’еўская раса мае магічныя якасці. Яна прыносіць здароўе, прыгажосць і сілу. Таму некаторыя дзеці некалькі разоў пракаціліся па жыце Дарка Фіёніка.

— Напэўна тут будзе буйнае жыта? — здзіўлена ўпэўніваліся ў гаспадара, паказваючы патаптаную рунь.

**Канец дапісаўся сам**

За Студзіводамі плыве рака Арлянка. Як наказвае традыцыя, на Юр’е дзяўчаты варожаць сваю будучыню. А даўней будучыня значыла замужжа. Таму і бяльшчанкі пайшлі на раку пускаць човенкі. Замест човенкаў (прылады ад ткацкага варштата) падрыхтавалі расколатыя палены са свечкамі. Човенак пушчаны на ваду меў паказаць бок, дзе жыве суджаны. Варажба паказала, што ўсе бяльшчанкі пойдуць замуж у Ляўкі. Гульням спадарожнічала песня „Ой, плыў човенак па рэчцы, па рэчцы”.

А канец дапісаўся сам. Сярод хмурнага неба вылучылася, быццам вока, светлая паласа. У ёй заіграла сонца. Дзялілася яно на кругі,ззяла яркімі праменнямі, быццам абвяшчала нейкую радасць.

— Ой, мы забыліся адзначыць, што на Юр’е іграе сонца, — заўважыла Альжбета Тамчук, захопленая з’явай.

Паводле народных павер’яў, ігранне сонца прадказвае шчаслівыя замужжы і багаты ўраджай.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*Дзяўчаты пускалі човенкі на рэчку.*

# Зубры ідуць у Вярхлессе



У гарадской ратушы ў Беластоку адкрылася чарговая выстаўка мастацкіх фатаграфій Віктара Волкава, беластачаніна, размілаванага ў роднай прыродзе. Яго здымкі даволі часта паяўляюцца і ў „Ніве".

Палета Волкава на гэты раз аднатонная. Аднатоннасць у яго выкананні не мае нічога з манатоніі.

Узмоцненыя экспрэсіяй аднаго колеру, фатаграфіі з цыкла „Мае паляванні" часамі — а мо найчасцей — выбухаюць чырванню, даслоўна крычаць. Чырвоныя авечкі пасуцца ля чырвонага лесу, пад чырвоным драўляным крыжам. Чырвоныя вербы, чырвоная вада, чырвоны чалавек з чырвоным сабакам, плывучыя лодкай. Чырвоныя гусі ўзляцелі над чырвоным разлівам. Зубры ў чырвоным тумане, чырвоны бусел і яго гняздо на старым дрэве...

„Бяроза (чырвоная — *рэд.*) пад Сакалдой згубіла зімою апошнюю жывую галіну і выглядае як чучала гарохавае. Бацянае гняздо ўжо даволі вялікае. Пад канец лета фатаграфую кармленне маладых бацяноў пры поўні месяца", — натуе аўтар у маі мінулага года. Чырвоны колер тут — гэта крык яго душы, адданне зямлі, на якой ён нарадзіўся, невымерны боль і жаль па тым, што адыходзіць без шанцу на вяртанне...

А яшчэ ж у дзевяноста трэцім Віктар запісаў: „Бяроза пад Сакалдой мае яшчэ галіны, але мінулай зімой некалькі з іх паламалася пад цяжарам снегу і вісяць толькі на кары. З пасучымся недалёка канём яны ствараюць несамавітую атмасферу. Тры гады таму я сфатаграфаваў тое самае дрэва з канём каля яго. Бяроза выглядала тады цудоўна".

Часамі здымкі Віктара Волкава суцішаюць сваёй іржавай шэрасцю, такой звычайнай і незвычайнай, як само жыццё. Нягаз яны халодзяць сэрца сталёвым блакітам. Вісяць алавяныя хмары, і чалавек адчувае сябе такім маленькім у параўнанні з сіламі натуры, стыхіяй. Зрэдку, але даслоўна ў некалькіх працах з гэтай выстаўкі, паяўляюцца і натуральныя колеры: зялёная трава, сухі, карычневы трыснёг, жоўтая птушачка.

А ведаеш, чатыры месяцы сядзеў я ў лабараторыі, кажа мне Віктар. Гэта ж мае каляровыя эксперыменты. Я хацеў тут паказаць свой індывідуальны падыход да справы, і таму дамінуе адзін колер. Страшна марудная работа! Усё сам раблю, „пехатой", без ніякіх машын. Стараюся перадаць дух часу і месца. Дакументацыя тут ніпры чым.

Пагаварыце з Волкавым! — ён памятае кожнае месца, дзе рабіў здымкі, кожнае дрэва, разліў, чалавека. Во, кажа, некалькі гадоў я паляваў на коней ва ўсходзе сонца, а знайшоў іх у Ганёндзы... — і я бачу чорны луг, коней за імглой, чырвонае ўзыходзячае сонца.

Во, зубры ідуць у Вярхлессе... Усе зубры — пад Крынкамі. — Волкаў, калі расказвае, не задумваецца. Бачу плот, раку, залітыя лугі, дзе-нідзе снег, па рацэ плыве чаўно. А гэта дзе? — А гэта ў Златарыі.

Зіма і лета тут, усе поры года. Жывёла, звяры, часамі чалавек, а найбольш птушак. Каровы пераплываюць раку, каб дабрацца да луга. Гусі ўзняліся раптоўна над вадой, перапалоханыя некім. Пахілены чалавек з цяжкасцю ідзе пад гару побач з пахіленым, як і ён, плотам.

Але птушкі — проста паэзія. Бацян стаіць на стозе. Арол ляціць проста над разлівам. Шэра-бежавы ключ жураўлёў. Качкі, гусі. На вадзе сядзяць качкі, а далей, каля лесу, стаяць, спаглядаюць зубры. Каляровая птушачка сядзіць на зялёнай галінцы ялінкі, быццам цацка на святочнай ёлцы. А во гэтая птушка падсветлена нейкім нябачным святлом, сядзіць, быццам у сярэбраным арэоле. Птушкі, пра якіх я і не чула. Гусі на фоне месяца. Каляровы дзяцел на голым зімовым дрэве. На фоне чырвані, у якой змяшаліся вада і сонца — толькі лебедзь чорны.

Не апісаць характва Волкавых здымкаў, якім аддаў гэты „механізатар ральніцтва" ўжо трыццаць сем гадоў свайго жыцця. Выстаўка „Мае паляванні", як сказаў аўтар, дзесьці ўжо саракавая.

Можа, камусьці незарыентаванаму здаецца, што варта падысці да звера, да птушачкі — і зробіш здымак. Але гэта не так. Паслухайце Волкава:

„7.4.1998 г. Прачнуўся я перад трэцяй. Неба чыстае, відаць зоркі і месяц, 4°C. Я вырашыў ехаць на матацыкле, бо самаходам да мэты маёй паездкі не даеду. Перад Агароднічкамі паявілася імгла настолькі густая, што адмаўляюся ад карацейшай дарогі праз Васількаў і Юроўцы. Трымаюся за асфальт і белую паласу на сярэдзіне шашы. За Фастамі вырашаю адмовіцца ад далейшага падарожжа. Я ўвесь мокры ад імглы і змерз. Нічога не бачу — момантамі еду 20 км/гадз. Імгла аднак крыху прарэдзілася — еду далей. У Моньках пры вулічным святле затрымліваюся і запіхаю каптур камбінезона і нейлонавыя мяшкі на замерзлыя грудзі. Даязджаю на месца ў пару. Яшчэ толькі 20 метраў у вадзе, з задніх колам, акунутым па вось. І вось я на цудоўнай выспе пасярод балот. Чую токі цецерука, як у сямідзесятых гадах. Сонца ўзыходзіць хмарай, на далонь над гарызонтам. Імгла круціцца, як у калейдаскопе, падымаючыся ўверх і ападаючы. Раптам на вяршыні бярозы садзіцца цяцера і пачынае такаваць. Настаўляю апарат на бярозу і нічога не бачу, заглядаю ў аб'ектыў — усё зацякло вільгаццю. Цецярук важна праляtae над маёй галавою. Калі я ехаў назад, захмурылася, матацыкл сапсаваўся. Цудоўны дзень."

Такіх людзей, як Віктар Волкаў, на Беласточчыне няшмат. Скромны, без рэшты аддадзены сваёй справе. Вялікі мастак.

**Ада Чачуга**

# Хатняя газета

**„Тыднёвік Магілёўскі" — незалежная беларуская газета ў Гомелі, існуе год часу. Выходзіць яна тыражом у 1100 паасобнікаў, дадатковых 500 экземпляраў распаўсюджвае выдавец недзяржаўнымі шляхамі. Характар газеты знарок завостраны і палітычны, змест складаюць выключна тэксты на беларускай мове. Газетай кіруе Генадзь СУДНІК, з якім мы працягваем тэму выпуску беларускай незалежнай прэсы.**

***— Газету Вашу рэдагуюць дзве асобы. Адна асоба гэта вы, а хто другі?***

— Мой сын Віктар. Газету робім мы ў хаце — там жа і афіцыйны яе адрас, бо газета зарэгістраваная. Друкуем яе ў дзяржаўнай друкарні. У мяне добрыя адносіны з дырэктарам друкарні ды ён вельмі лаяльны ў дачыненні да нас. Пакуль не атрымае афіцыйнага загаду спыніць нашу газету — сам па сабе рабіць такога не будзе.

***— Тое, што падрыхтаваць газету можна ў хаце, як і тое, што змогуць справіцца з гэтым дзве асобы — мне вядома. Але як кожны тыдзень удваіх запісаць старонкі?***

— У нас склалася кола няштатных супрацоўнікаў, якія прыносяць нам інфармацыю, за што і атрымліваюць ганарары. Можа не ўсе яны яшчэ майстры ў пісанні, але гэта маладыя людзі і яны хутка вучацца. Я з імі дамаўляюся раней, куды ім трэба пайсці і пра што напісаць. Тое, што прыносяць выглядае часам як лібрэта ў оперы — трэба сесці самому ды рабіць з гэтага матэрыял. Я лічу, што гэтыя курсы (ідзе пра курсы Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь" для выдаўцоў незалежнай прэсы ў Беларусі — А. М.) якраз для нас.

***— Бываюць выпадкі, што пішуць для Вас супрацоўнікі магілёўскіх афіцыйных газет, фінансаваных бюджэтам дзяржавы?***

— Яны пішуць, але не падаюць сваіх прозвішчаў. Такая ў нас запалоханасць. Больш таго, бываюць выпадкі, што пішуць супрацоўнікі такіх сфераў як культура і адукацыя. Яны ж бачаць пра што мы пішам, што гаворым, за што стаім. Ім таксама хочацца ў гэтым удзельнічаць. Яны падаюць нам інфармацыю, але ніколі не пагаджаюцца падпісацца, скажам, „дэкан беларускамоўнага магілёўскага..." Ён нам кажа: „Хлопцы, прыдумайце нешта".

***— Якія адносіны ўлад да Вашай газеты?***

— Мы не маем акрэдытацыі ні пры адной афіцыйнай установе ці арганізацыі. У большасці гэтых абласных устаноў ёсць свае ведамствы па сувязі са сродкамі масавай інфармацыі, але яны нас не прызнаюць ды нашым супрацоўнікам там дзверы зачынены. Мы вымушаны прабівацца сваім шляхам усюды там, дзе нешта трэба нам бачыць і зрэагоўваць. Ведаем аднак, што ўлады нас вельмі акуратна чытаюць. Перш чым газета трапляе ў друкарні на машыну, яе адтуль забірае супрацоўнік КДБ, каб вычытаць.

***— Пра што вось гэты супрацоўнік КДБ можа даведацца з газеты?***

— Ён можа даведацца, што ёсць такая краіна, народ, мова, культура. Затым ён можа даведацца, што мы хочам, каб палітычная сітуацыя ў краіне ў праламленні праз мясцовае жыццё была відавочнай людзям. Многія ў нас, на жаль, не разумеюць, што адбываецца. Яны не бачаць, што адбываюцца ў нас парушэнні канстытуцыі, што жыццё пагаршаецца ды не ўмеюць гэтага звязаць з канкрэтнымі віноўнікамі гэтай сітуацыі. Людзям здаецца, што вінаватыя ў гэтай сітуацыі дваццаць хлопцаў пад бел-чырвона-белымі сцягамі, якія выходзяць дэманстраваць за беларускую мовы, свабоду слова і чалавечыя каштоўнасці.

***— Ці ў Вашу газету трапляе рэклама ад прыватных прадпрымальнікаў?***

— На жаль, не. Гэта не толькі ад запалоханасці, але і па той прычыне, што ў нас звычайна знікае гэты сектар гаспадаркі. Дзяржава вядзе тут жорсткую палітыку. У мінулым годзе быў у нас такі прадпрымальнік, для якога мы адкрыта друкавалі рэкламу, а ён і не надта гэтым хваляваўся. Прадпрымальнікі аднак бачаць да чаго ідзе — шмат з іх пераявяло свае грошы ў Расію і з'ехала туды з цэлымі сем'ямі. А дзяржаўным прадпрыемствам — звычайна забаронена супрацоўнічаць з намі.

***— Дык як фінансуецца газета?***

— У нас свая грамадская арганізацыя „Кола сяброў", якая і з'яўляецца выдаўцом газеты. У яе свае выхады на грантадаўцаў у Еўропе. Няма там, праўда, нейкага адмысловага гранта на газету, але ёсць, прыкладова, гранты на „пашырэнне інфармацыйнай прасторы" — наша газета гэтае „пашырэнне" практычна і ажыццяўляе.

***— Ці ў зменнай сітуацыі, калі не будзе падзелу на афіцыйныя і незалежныя газеты, а будуць толькі газеты, Ваша выданне зможа выконваць нармальную інфармацыйную ролю ў вобласці?***

— Газету мы пасылаем і ў раёны. Іх у нас дваццаць. Аднаму пасылаем пяцьдзесят асобнікаў, іншаму трыццаць. Мы заўважылі, што газета адтуль не вяртаецца. Вось раёнамі нашымі і будзем нарошчваць тыраж. Калі ідзе пра ролю газеты ў грамадстве, дык скажу, што пісаць тое, чаго ад цябе патрабуюць улады — вельмі лёгка. Але лёгкасць гэтая зараз жа абярнецца супраць прафесіяналізму, супраць прафесійнай годнасці. Мы на такое не ідзем. Калі б палітычная сітуацыя ў нас памянялася, я лічу, што наша газета зможа запоўніць той чытацкі рынак, на які складаецца Магілёўская вобласць.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксандр Максімюк**

# Агляд абрадавых калектываў



*Даўней улады лічылі, што простаму люду для шчасця дастаткова віна і гульняў. Ды і сённяшнія ўлады таксама любяць...*

У нядзелю 10 мая адбыўся ў Ласінцы агляд беларускіх абрадавых калектываў. Мерапрыемства, арганізаванае Гміннаю ўправай у Нарве і Галоўным праўленнем БГКТ, выклікала вялікае зацікаўленне вяскоўцаў. Зала тамашняга асяродка культуры была напапоўнена, пазней аднак маладшае пакаленне ласінчан аддало перавагу іншым, чым агляданне колішніх вясковых абрадаў, формам святочнага адпачынку; па-суседску працавалі дзве крамы.

— Блеяті сюды прыіехалі, — ацаніў адзін выходзячы з залы маладзён.

А ў зале пачалося ўсё ад уводнага слова старшыні ГП БГКТ, пасла Сейма Яна Сычэўскага і прывітання апладысментамі ўраджэнца Ласінкі, пасла Сейма Сяргея Плевы.

— То добры хлопэць, — сказаў адзін з прысутных побач мяне.

Агляд павяла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, а першымі выступілі дзеці з Бельскага дома культуры — усе вучні тамашняй „тройкі". Паказалі яны „Ляльнік" — абрад прывітання вясны — паэтычную пастаноўку пераможнага змагання каляровай жыватворнай вясны з беламарознаю зімой.

Пасля дзетак самадзейнікі з Малінік паказалі фрагмент тамашняга вясельнага абраду, не толькі з песнямі, але і з пышным караваем, якім пазней адна з каравайніц пачаставала амаль усю публіку; не меншую радасць выклікалі і раскінутыя са сцэны цукеркі. А я крыху засумаваў, бо ні каравая не пакаштаваў, ні цукеркаў, затое ўлавіў адну дэмаграфічную дэталь: маладая то яшчэ была маладая, але ўжо дружку ёй удалося знайсці ў вёсцы толькі такую, якая магла б быць і мне дружкаю...

Жанчыны са Збуча прыпомнілі гледачам колішнія дажынкі. Былі сярпы ды снапы і ляшкі з простых, не пабітых цяперашнімі машынамі, саломін. Была і перапёлка, якую, пасля зрэзання для *Сплення* каласнога верху, упрыгожылі „макамі", „браткамі" і „валошкаю". Ну і, вядома, не абышлося без дажынкавых спеваў.

Мяне, а хіба і ўсю публіку — бо так мяркую па паводзінах гледачоў — захапілі жанчыны з Краснага Сяла, якія паказалі апрацоўку льну; магчыма таму, што хатняя апрацоўка льну звязалася ў нас ужо даволі даўно, недзе ў наводзячыя сантыменты пяцідзесятыя гады, калі, напрыклад, я бестурботна бегаў яшчэ басанож. Чаго тут не было: і церніца, і трапачка, і шчоткі для часання, і сапраўдны лён! І экспрэсія гледачоў:

— Не так! Не так! — калі адна з самадзейніц пачала той лён трапаць. І пазней:

— О! Гэтая ўмее, а тая то не ўмела нічога.

Ды не толькі самую апрацоўку паказалі самадзейніцы, але і яе юрыдычныя абумоўленасці! Справа ў тым, што па супрацьпажарных меркаваннях забаронена сушыць лён у печах. А таго льну ў „нашых" жанчын „поўная печ"! І „міліцыянер" з'яўляецца ў хату! І ўладна па-польску распытвае. І гаспадыня, таксама па-польску, ветліва глумачыць, што ўсё ў парадку, і запрашае „міліцыянера" за стол. І зараз жа бутэлька на стале паяўляецца, і чарка...

— Гляньтэ, то ж і бутэлька даўнішняя! — апраметна заўважыла адна жанчына ў зале. І сапраўды была гэта колішняя літроўка з канічнаю вузкаю шыйкай!..

„Міліцыянер" пасля двух чарак пакідае хату, а жанчыны сядаюць за стол канчаць напачатую літроўку. І пры застоллі плывуць спевы чароўныя-чароўныя... Любата!

Агляд закончылі самадзейніцы з Козлікаў, якія паказалі „Вячоркі". Але гэта яшчэ не ўсё: па-за аглядам далі яны міні-канцэрт жартоўных песняў. А серабрыстая-серабрыстая ўжо Люба Гаўрылюк адгуляла танцы з такімі прытупамі, што мала якія сённяшнія дзеўкі былі б ёй раўнёю!..

Гледачы пакідалі агляд з пачуццём радасці ад пабачанага. А ўсе самадзейнікі атрымалі ад арганізатараў сімпатычныя сувеніры. А была яшчэ і адмыслова афармленая дэкарацыя, і, гэтым разам, бездакорны канферанс. Толькі ўдзельнікаў было менш, чым прадбачвалася. Можа ў будучыні будзе больш, бо калі Валянціна Ласкевіч запрашала і мясцовых гледачоў, каб і яны нешта на будучы год падрыхтавалі, яны паабяцалі...

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*...пазабаўляцца.*

# Бяда за бядою

Калі Райка выходзіла замуж за Віцю, маці адразу ёй сказала:

— Не хачу ўмешвацца ў вашыя справы, бо цяпер маладыя пабіраюцца толькі з кахання, але, дачушка, не будзе табе добра — мамін сынок твой Віця. Найразумнейшы, найпрыгажэйшы, заўсёды мае рацыю — так яго мамуля навучыла. Будзеш ты ў яго хадзіць як на шнурочку.

— Ой, мама, не кажы, — усміхнулася дзяўчына, — ён жа ж кахае мяне моцна, усё будзе добра.

Пасля вяселля Віця адразу паказаў, дзе месца маладое жонкі. Свякрусе рот не зачыняўся: а так мужу трэба дагадзіць, а так каля яго хадзіць, лавіць кожнае слова з ягоных вуснаў, калі нават нічога не кажа...

Першы раз падняў на яе кулакі, калі была ў трэцім месяцы цяжарнасці. Хацеў, каб цесці далі яму два гектары лугу.

— Як мы можам табе столькі даць, — разлажыў рукі Райчын бацька, — калі ў нас саміх толькі два гектары? А яшчэ ж у нас ёсць і дачка, і сын. Што ім астанецца? Далі табе, як сам хацеў, пяць тысяч злотых і гектар поля, карову, авечак. Ці ж гэта мала?!

Віця ўвечары пабіў жонку да непрытомнасці.

— Ты сваіх авечак і карову гоніш на пашу маіх бацькоў?! На сваё жані, чартоўка! — прыдаваў у дадатак.

Райка месяц праляжала ў бальніцы. Цяжарнасць закончылася выкідышам. Тады, хоць ужо бацькі дазвалялі выходзіць замуж і жаніцца з аднаго толькі кахання, развод лічыўся вялікім сорамам і грэхам для жанчыны.

— Што тут рабіць, — ламалі рукі Райчыны бацькі. — Трэба нам будзе купіць луг у Аксені, што ў Прусы выязджае, і даць Віцю, няхай жывуць у спакоі.

Як падумалі, так і зрабілі. Райка паздаравела. Як толькі вярнулася дахаты, звалілася на яе ўсе абавязкі. Віця пайшоў працаваць у цагельні, пасля цяжкае працы клаўся адпачываць. Нават пячы хлеб на ўсю сям'ю даводзілася цяпер Райцы, бо і свякрусе належаўся адпачынак. Уставала і клалася Райка на прыцемках.

Два гады дзяцей не мелі. Калі Райка хадзіла Міркай, вельмі кепска сябе адчувала, не магла нічога цяжкага падняць, і ў полі малая была з яе карысць.

Пайшла свякруха да Райчыных бацькоў:

— Вы, што вы нам дахаты далі?! Што гэта такое! Самі за яе прыходзьце рабіць, за гэтую хворую цельную карову! Бедны мой Віця, такі добры, такі харошы, каб так мучыцца!

Бацькі маўчалі і рабілі і на сваім, і на сватоўскім, абы толькі Райцы добра было. Нарадзілася ўнучка, спачатку здавалася, што здаровая.

Калі Мірка пайшла ў школу, не магла навучыцца лічыць да дзесяці. Паўтарала першы клас. Маці старалася як магла дапамагчы малой, але тая ўсё хутка забывала, такая ў яе была слабая галоўка. Цяпер Віця шкадаваў, мяркуючы па часе, што, пэўна, таму дзіця кволае, што ён кепска трактаваў жонку. Усё ж, дзяўчынка закончыла пачатковую школу. Куды ж ёй было ісці вучыцца?

З дачкі дома таксама не была вялікая карысць. Што сказалі зрабіць, то зрабіла, а калі не казалі, дык сядзела без справы. Усе думалі, што давядзецца ёй усё жыццё быць адной, бо хто ж такую недарэку возьме за жонку? Але выйшла іначай. У вёсцы, аддеглай на 30 кіламетраў ад іхняй, жыў стары кавалер. Вядома, на гаспадарку цяжка каго-небудзь знайсці. Калі памерла маці, пачаў распытваць у людзей, каб дзе знайсці кабету, каб яму хоць есці зварыла.

Хтось насватаў Мірку. Прыехаў, паглядзеў. Бацькі падумалі і аддалі яе замуж.

Косця не біў жонкі, але жыццё ў яе не было салодкае. Калі нарадзілася ўнучка, Райка часта ездзіла да дачкі, каб прыбраць у хаце, памыць пасцель і адзенне. Давялося дапамагаць таксама і ў гаспадарцы. Пасля Мірка нарадзіла яшчэ дзве дзяўчынкі. Цяжка было Райцы — і дома работы вышэй вушэй, і ехаць трэба ў дачкі ўсё высачыць.

Віця захварэў на сэрца, мала памагаў у гаспадарцы. Райцы ўсё прыбаўлялася абавязкаў. Бывала так, што ў летнюю пару спала ўсяго па дзве гадзіны ў суткі. З кожным годам трацілася сілы.

Паваліў яе інсульт — *вылеў*. Зусім неспадзявана для ўсіх. На Спаса рана выбіралася ў царкву. Надзявала сукенку і ўпала на ложак.

Два месяцы пасля смерці жонкі Віця падрэзаў сабе жылы.

Год пасля Віцевай смерці аграмадны TIR ударыў у трактар, якім кіраваў Косця. Косцевы сёстры, што ў горадзе жывуць, пахавалі брата. Мірка ж была як нежывая, не ведала, што рабіць, што сказаць, куды пайсці, калі ёй ніхто не загадае. Дзяўчатак цёткі ўзялі да сябе, іхнюю маці аддалі ў дом апекі. Гаспадаркамі займацца не мае хто, зарастае ўсё вербалозам.

**Аўрора**

# Вазьміце нас пад ахову!

**Яшчэ адзін міністр, яшчэ адзін-другі ўрад (незалежна, „левы" ці „правы"), і ўвогуле клопату не будзе. Вымрэ від *пушчанскі чалавек беларускі*.**

**Вымруць паціху белавежскія пушчанскія вёскі дашчэнту, і не трэба будзе газ, дарогі, тэлефоны, экалагічная электрычная чыгунка. Лес будзе, для Польшчы, для Еўропы, для свету. Культура лясная.**



*Нас такіх тут многа.*

Жыве тут з лесу каля 60 тысяч. Куды ні зойдзеш, кажуць: „Дажываем". Люба Новік, сакратар Нараўчанскай гміны адказвае мне на пытанне, што, пэўна, маладых тут няма: „Не, ёсць. Пасяляюцца нават. Але нетутэйшыя, якім замарылася набраць паветра з зялёных лёгкіх Еўропы".



*Мы таксама за экалогію!*

Нараўчанская гміна — адна, як усюды кажуць, з найлепшых у ваяводстве. І на культуру тут не шкадуюць, і, во, школа якая. Каб ано толькі дзеці нараджаліся. Чвэрць народу з лесу жыве. З іх — 360 чалавек работы не мае, бо *лес зачыняюць*.

— А ўвогуле не вельмі і па ягаду зойдзеш, — кажуць жанчыны ў Масеве. — А тут жа з дзеда-прадзеда жывем з лесам і з лесу.

Свае паўцякалі. Павывучваліся. Але людзі прыязджаюць, паглядзець. Можна было б турыстаў прыманьваць хоць бы тым чыстым паветрам, але ж не яно адно чалавеку патрэбнае. — А інвестар грошай не дасць у пустую, — мяркуе войт Мікола Павільч. А тут не хапае нават драўніны, каб у печцы паліць.

— Тут усё пра парк **нацыянальны** гаворыцца, — кажа Марэк з Баравых, — але не для **нацыі**, а для зуброў. Абяцалі ў Варшаве даць грошы на газіфікацыю. А ў Беластоку не прадбачваецца газіфікацыі на нашай тэрыторыі.

З Варшавай гаварылі, з Беластокам. Цяпер яшчэ і паветы будуць. Больш ратоў для размовы.

Вуглем, значыцца, паліць тут трэба будзе ў печках.

— Вельмі ж дбаюць пра наша асяроддзе — па пушчы не ездзяць экалагічныя электрычныя цягнікі, а аўтобусы. „На газе едзеце?" — запыталі аднага вадзіцеля аўтобуса. — „Не, я ніколі не п'ю, калі еду ў трасу!" А „газы" едуць па жалезных пуцях — для іх ёсць дарога і прыярытэт, а не для пасажыра-чалавека. Ды куды ж яму, абарыгену на скананні, цягнуцца ў свет! „Ну, не раздражняй мяне пытаннямі!" — гыркае мне, былой пушчанцы, Коля з Семяноўкі.

І каго тут пытацца? Сам міністр раз кажа, што ўся пушча ідзе ў парк, без ніякай гаворкі, бо калі справа ідзе пра такія прыярытэтныя справы, як еўрапейская экалогія, нават ва Уніі нікога не пытаюцца. Нармальны еўрапеец павінен ведаць, што ёсць важнае для свету! Другі раз міністр кажа, што ўсё зробіцца памаленьку, паступова, пры супрацоўніцтве з жыхарамі.

— Гавары што хочаш, і так зробяць як захочуць. Нас тут папраўдзе ніколі не лічылі за людзей, — кажа хлопец у берэце, з піўцом, на лавачцы. Ого, мы шмат што скарысталі на гэтым парку ўжо! Я вось працу страціў.

— А так, мы „скарысталі" ўжо шмат, — кажа войт. — Далі 4300 гектараў свае тэрыторыі на парк, за абяцанні. Тагачасны міністр падпісаў дамову. І мы вось толькі і чакалі, як палюцца грошы нам на дапамогу: на ачышчальні, на каналізацыю, сметнікі, самаходы для пажарнікаў. Мы забавязванні выпаўнілі.

Але фонды ці банкі прапануюць такія крэдыты, якіх гміна не ў змозе ўзяць, або ўвогуле адмаўляюцца даць дапамогу.

Жыхары не супраць аховы пушчы, абароны яе перад „шалёнымі пільшчыкамі", але ж ніхто не хоча, каб яго будучыню рашалі без яго, трактуючы нават не інструментальна. Здаецца, у вярхах маюць нейкіх чараўнікоў, якія бачаць або і зачаравалі будучыню, дзе ў пушчы няма ні аднаго жывога чалавека, нават такога экспаната як від *пушчанскі беларус*. Тыя „мяшаныя камісіі" і перамовы ёсць простае „замыльванне вачэй". Так думаюць жыхары прыпушчанскіх вёсак. Грамадскія дзеячы напісалі пратэст у міністэрства. А „простым" людзям здаецца, што гэта іхныя ўжо аганальныя сутаргі напрыканцы другога тысячагоддзя нашай эры. Лес тут будзе, як і быў. Дэкадэнцкі настрой некаторых узмацняе яшчэ і суцяшальніца-гарэлка. Але ж тут людзі хочуць жыць нармальна. Добра. Колькі народу зайздрасць бярэ: вось вы ў пушчы жывяце, шчаслівчыкі!

Бараніцца трэба, бо ж людзі жывыя.

— А што, тыя „рашучыя дзеянні", пра якія пішам у пратэсце, маюць быць такія: мы з сякерамі і пілámі станем абараняць наш астравок жыцця? — пытае дзядзька ў берэце. Не хоча сказаць, як называецца, бо „нас такіх як я тут многа". — Але я не думаю ўцякаць!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*Жыць стараемся нармальна, добра, прыгожа.*

# Адным цветам

**Вёска Рыгораўцы раскінулася ў васьмі кіламетрах ад Орлі і налічвае цяпер каля 150 жыхароў. Аб сяле і сваім жыцці расказвае мясцовы старажыл — 87-гадовы Сцяпан СЕМЯНЮК.**



— Калі споўніліся мне тры годзікі, вёску спасцігла бежанства. З нашай вёскі выехалі ўсе. Паехалі мае бацькі, Сямён і Анна, брат Пятро, сёстры Зіна і Хвядора, ды я — наймалодшы ў сям'і. Пасялілі нас у Данской вобласці і жылі мы там па хутарах. Гэты перыяд слаба замацаваўся ў маёй памяці, бо калі мы прыехалі назад, мне было сем гадоў.

Вярнуліся мы ў спаленую, зарослую пустазеллем вёску. Аказалася, што пасля нашага выезду ў 1915 годзе каля вёскі разгарэўся бой. Немцаў ноччу неспадзявана засцігі казакі і многа іх там загінула. Ад гэтага здарэння застаўся нямецкі вайсковы надмагільны помнік, завершаны бетоннай каскай, з высечанымі на трох баках прозвішчамі салдат і нумарамі кампаній.

Цяжка было... Вярнуўшымся бежанцам не было дзе жыць, не мелі яны таксама чаго есці. Мы праз нейкі час пераехалі ў Орлю да сястры Хвядоры, якая тым была замужам. У Орлі было крыху лягчэй, бо можна было наняцца на работу ў яўрэяў. З часам пабудавалі мы хатку ў Рыгораўцах і вярнуліся туды. Неўзабаве ажаніўся брат Пятро. Я ў школу не хадзіў, толькі трохі падвучыўся на курсах у войску. Паўтара года служыў я ў войску ў Седльцах, а потым мяне двойчы мабілізавалі. Другі раз прызвалі ў Слонім, у вёску Кісяляне. Былі мы там два тыдні. Потым аддалі нам ваенныя білеты (кніжачкі), бо ўжо прыйшлі рускія.

З 1944 года працаваў я на чыгунцы і пасля 27-гадовай службы перайшоў на пенсію. Пасля вайны паставілі мы большы дом. Мая жонка Анастасія паходзіць з Пашкоўшчыны і яна на дзесяць гадоў маладзейшая за мяне. У нас два сыны — Коля і Сцёпа. Старэйшы сын пабудаваўся побач і займаецца на гаспадарцы ды апякуецца намі. Малодшы сын ужо пяць гадоў жыве ў Італіі. Паехала да яго наша ўнучка (дачка старэйшага сына) з мужам. Маладыя менавіта і пазнаёміліся ў Італіі (хлопец быў з цэнтральнай Польшчы).

Здароўе ў мяне прапала. Нічога ўжо на гаспадарцы не раблю. Цяпер летам, калі сонца моцна грэе, выходжу з хаты на лавачку. А калі няма лета, то адным цветам, усё сяджу ў хаце...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Парнасік

* * *

Эх ты, душа мая, маладая
дзе гэта шчасце з расстайнай дарогі
вярні мне сілу рэчкі шаптушкі
яна абмывала змучаныя ногі
хачу затрымаць часцінку жыцця
вярнуся і стану напроціў дарогі
ўспомню як шчасце мінала мяне
хаця трымаў яго за рогі.
Чакаў цярпліва гэтай пары
душа ўвесь час хварэла
і бачыў адвагу і сонца ўгары
сонца свеціць, адвага згарэла
цяпер тамлюся вакол дзяўчат
яны горнуцца як мошка
загналі сілаю на сена
ўвесь час паўтараючы:
„любоў не картошка”.

### І заўтра таксама дзень

Высокі бераг нашага жыцця
глыбокая рэчка на нашай душы
сэрца каменнае нічога не скажа
і нашай праблемы не развяжа
а збракавала нам адвагі
прызнацца сябрам з-за Буга
што мы ўжо польскія беларусы
і чакаем друг на друга
як нядзелькі
а яна заехала на базар
дзе душу купіш за грошы
дзе п'яны журавель крычыць
голасна
што ён Бог і Цар
бо высока ўзнялі яго людзі
дзеравяная душа
ўжо парахном
забыўся бядак куды
закапалі яго веру.

**Уладзімір Саўчук**

### Зубы

Прыходзяць яны
і адыходзяць
з болем.
Рот без іх
— чырвоная яма.
Не ўкусілі б
без іх
яблыка ні сала.
Не сказалі б
Саша
толькі Саса!
Найлепшыя зубы—
свае.
Але ж
пратэзаў
у наш час — шмат.
Свае зубы
ці чужыя
упрыгожваюць
чалавека
і яго бяззубы рот.

**Аўрора**

### Травеньскія будні

Травеньскія будні —
Як у гарачай кузні,
Дзе гартуецца наш труд;
Няхай жыве беларускі люд!
Які любіць работу,
Прывык да нясмаку, *заботаў*.
Яму праца не чужая
І ніколі не ліхая.
Каб яшчэ быў патрыятычны —
Кожны крок не быў бы лішні!
Хай родныя пачуцці ў сэрцы растуць
І спелы плён усім нам даюць.
Праца пойдзе ўсюды лягчэй,
Калі пакрочым наперад смялей.
Прыгожыя, духмяныя будні майскія,
Каляровыя, здаровыя і райскія.
Усё наўкола цвіце
І араматны лячэбны ладан нясе —
Толькі ўхапіць і ўдыхнуць
у свае грудзі...
Сябры дарагія: пра гэта не забудзем!
Бо жыццё на зямлі ёсць адно
І, каб не ўпасць на духовае дно,
Павінны мы любіць адзін другога:
Здарова, хворага, слабога...
Бог і нам, беларусам, пашле сонца,
Якое загляне і ў наша ваконца.

**Мікалай Панфілюк**

### „Ральмак” — сам смак

Людзі кажуць, што ў „Ральмаку”
Усё да густу і да смаку.
Калі хоч здаровым быці
Трэба ў „Ральмаку” ўсё купіці.
Каўбаса ў іх там на славу,
Хто купіў аб гэтым знае,
Нідзе больш ён не падаецца,
У краму „Рольмаку” прэцца.
Няма там халестэрыну
Каб псаваў нашу ўнутрыну.
Каб хваробы нам не знаці,
У „Ральмаку” трэба купляці.
Для „Ральмаку” я жадаю,
Каб усе жылі як у раю,
Каб ўсё добра выпускалі
І нам здароўя дабаўлялі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Камюнікэ

Таварыства будовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны забітым, памардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939-1956 гадах звяртаецца з заклікам дасылаць весткі (у выглядзе анкеты) пра асоб праваслаўнага веравызнання, якія загінулі ў ніжэйпералічаных месцах пакуты:

1. У 1941-1944 гадах у лесе паміж Старасельцамі і Бацечкамі, а таксама ў Пятрашах, Грабаўцы, Навасёлках каля Харошчы, Зялёнай каля Беластока і на камунальных могілках у Беластоку.

2. У 1939-1945 гадах у следчай турме ў Беластоку.

3. У чэрвені 1942 года пры вуліцы Алавёвай, каля горкі Магдаліны ў Беластоку (там гестапа акружыла і спаліла будынак, у якім згарэла сям'я ўласніка жылля).

4. У сакавіку 1943 года на пляцы былой алейні пры вуліцы Батанічнай у Беластоку (тады немцы павесілі аднаго рабочага).

Звяртаемся з просьбай высветліць абставіны смерці наступных асоб: Дзмітрый Гаскевіч (замардаваны 11 сакавіка 1945 г.), Аляксандр Дропэк (25 ліпеня 1945 г.), Якуб Гапанюк (10 лістапада 1945 г.), Пятро Андраюк (28 лістапада 1945 г.), Рыгор Міранюк (23 ліпеня 1946 г.), Яўген Герасімчук і Сяргей Сімановіч (9 жніўня 1946 г.).

Просім таксама дасылаць анкеты пра іншых праваслаўных, якія загінулі ў 1939-1945 гадах.

Наш адрас: Stowarzyszenie Budowy Pomnika Prawosławnym Mieszkańcom Białostocczyzny, ul. Warszawska 11, 15-062 Białystok.

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 767. Мікалай Суліма (Гайнаўка) .......... 10,00 зл.
4 768. Міхал Голуб (Гайнаўка) .......... 10,00 зл.
4 769. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) .......... 10,00 зл.
4 770. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку ў Музеі .......... 111,95 зл.
4 771. Прадшколле н-р 5 у Гайнаўцы на вул. Рэя .......... 25,00 зл.
4 772. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) .......... 30,00 зл.
4 773. Аляксандр Харкевіч (Гайнаўка) .......... 30,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.

# Вер — не вер

Астроне! Сніцца мне, быццам нясу я на руках дачнычо дзіця, але не адно з тых, што яна ўжо мае, а нейкае іншае, як бы трэцяе. Яно вельмі-вельмі цяжкое, вялікае. Праходжу так пару кіламетраў. Не памятаю, куды мы ішлі: у царкву, ці на прывіўку ў амбулаторыю. Прыйшлі. Я пачынаю яго распеляноўваць, а яно ўсё ў нейкіх брудных, зношаных, паплямленых ягадамі анучках. Развіваю-развіваю, а таго дзіцяці не бачу. Нарэшце ўбачыла я: ёсць! Але такое маленькае, як слімачок, быццам кволенькі 5-тыднёвы зародак.

Я вельмі спужалася. Трымала яго на руцэ, каб абагрэць крыху. Сон нядобры, праўда, Астроне?!

**Зіна**

Зіна! Твой сон сапраўды не надта добры. Не буду крывіць душою і пацяшаць цябе дарма. Ёсць у цябе нейкі камень на сэрцы, які не дае табе спакою. Дзіця наогул абазначае поспех у справах, але гэтае дзіця было для цябе цяжкое, завялікае. Больш таго, і царква, і тая прывіўка прадвяшчаюць табе нейкі смутак.

Будуць таксама нейкія страты (мо маральныя), будуць нейкія плёткі, брудныя справы, сваркі. Аб гэтым сведчыць той факт, што пялёнкі былі зношаныя, брудныя, паплямленыя.

І, бачыш, з таго быццам поспеху, дабрабыту (дзіця) зрабіўся маленькі 5-тыднёвы зародак, як слімачок. Нешта з таго поспеху выйдзе непрыемнае і слабенькае, нестабільнае — не будзе так добра, як ты спадзявалася і як магло б прадвяшчаць у сне дзіця.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. натоўп, 7. твор Ксенафонта, 8. дрэва з аранжава-чырвонымі пладовымі гронкамі, 9. Генры, англійскі пісьменнік (1707—54), 10. гораду Анатоліі, 14. развал на часткі, 18. імгненная ўспышка на небе, 19. Вільгельм, нямецкі жывапісец (1844—1900), 20. Эйдзі, японскі пісьменнік (1892—1962), 21. дагавор на арэнду транспартнага сродка на вызначаны тэрмін.

**Вертыкальна:** 1. мінеральная маса з высакаякасных гатункаў белай гліны, 2. горад у Палессіне, 3. маці цараэвіча, 4. парадак, паслядоўнасць, 5. злавіў залатую рыбку, 6. аддае кроў для пералівання другім, 11. горад на поўначы Нарвегіі, 12. волат, 13. ноша для ахопу рукамі, 15. нагляд, 16. Георг, аўстрыйскі рэжысёр (1885—1967), 17. горад у Венгрыі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 15 нумара**

**Гарызантальна:** шпат, Сукрэ, атрута, Трыр, Халеб, ландыш, журавель, бугай, бязмежжа, Езавітаў, назва, шкіпінар, гераін, Ханой, дыск, Чагары, Бурса, Ямін.

**Вертыкальна:** Цугару, Крлежа, Парнаіба, Тарле, Арань, штрых, Буйніцкі, альманах, буер, град, джаз, Ваза, Яўлінскі, аракул, Вуокса, Верас, шаман, Індыя.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Папраўка-каянне

У напісаны мною ў папярэдні нумар тэкст п.з. „Збіраюць многія” нячысцік, скарыстоўваючы мае разявацтва, упёр памылку, якая можа спарадзіць практычныя непаразуменні. Менавіта: кара роднаснай майму прозвішчу вярбы не можа быць таўсцейшая за два **міліметры**, а не сантыметры, як там напісана. Усім чытачам каюся за той мой грэх няўвагі.

**Аляксандр Вярбіцкі**


Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міранoвіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Антроп

Пароду каб знайсці,
Усім бы чэрап мацаў,
Гробся б і ў лісці,
У курганах, палацах
І па памеры члена
І кшталце пераносся
Нашага абарыгена
З Падляшша ці Палесся
Запіша ў украінцаў,
Пячаць сваю паставіць.
А сам ён нейкі... быццам...
Знаёма так картавіць!

## Юрка і Верка

Купіла Верка
хатку у вёсцы.
Вывезла Юрку
хітрасцю й сілай.
Юрка шчыруе
на роднай палосцы.
Скажы: „Вяртайся!" —
схопіць за вілы!
Той Беласток
яму ўжо нямілы,
Пахне яму
Белавеж і ваколле...
Замаразь хопіць —
Верка штосілы
Яго звалачэ
з асенняга поля.

Вандал Арлянскі

## Як паводзіць сябе, калі вам украдуць гадзіннік

Парады супраць асіміляцыі (5)

Калі вам украдуць гадзіннік — паводзьце сябе культурна і прыстойна. Ні ў якім разе нельга крычаць „Лаві злодзея!", асабліва, калі вы чалавек малады, уся будучыня перад вамі, а злоўлены на свежым учынку віноўнік можа ў гэтай будучыні аказацца вашым начальнікам. Пытаць каторая гадзіна падазронага ў крадзяжы — таксама не рэкамендуецца. Атрымаецца ўражанне, што вы насміхаецеся над незнаёмым чалавекам. Ён гатоў падумаць, што ў дзяцінстве бацькі не навучылі вас культуры, або гэта ўжо зусім катастрофа — вы круглы сірата і з-за адсутнасці бацькоўскага раменьчыка прамантачылі маладосць у папраўчым доме, куды трапілі за гвалт, забойства ці нейкае яшчэ горшае злачынства. А калі побач з вамі — зусім выпадкова — апынецца нейкі хрысціянскі актывіст — што ж ён падумае? Падумае напэўна так: „Гэты вось чалавек дамовіўся з жанчынай. Яна — не жонка яму. Сустракаюцца ў чужой кватэры, дзе п'юць віно і праводзяць палавыя зносіны без неабходных дакументаў. Спяшай, спяшай — каб ты ногі паламаў". Узяўшы вышэйшае пад развагу, паводзьце сябе так, быццам бы ў вас ніколі і не было гадзінніка. Калі ўжо аднак выраша сходзіць у паліцыю, прыязна ўсміхніцеся дзяжурнаму афіцэру, каб гэты добры чалавек не сумняваўся, што ветлівасць і зычлівасць — прыродныя рысы вашай нацыі. Павіншуйце яго з Днём жанчын або з нейкім дзяржаўным святам, можаце таксама напомніць пра суседа, які вырабляе самую лепшую самагонку ў вашым блёку. Не забудзьце таксама сказаць, што патрэбныя прылады прыхоўвае ў падвале, у мяшку з познімі яблыкамі, дзякуючы чаму самагонка атрымоўвае арыгінальны, вельмі прыемны арамат.

Калі вы чалавек запальчывы, нервовы, гвалтоўны — словам, самі сабе не верыце — гадзіннік найлепей пакідайце дома. У любую хвіліну можаце пазваніць жонцы і спытаць, каторая гадзіна. Пачуўшы ў трубцы незнаёмы мужчынскі голас — сардэчна перапрасіце за памылку.

Міхась Андрасюк

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці бландзінка можа зрабіць з мужчыны мільянера?
— Можа — калі ён мільярдэр.

* * *

— Чаму бландзінкі нараджаюць не больш чым трое дзяцей?
— Бо адна газета напісала, што кожны чацвёрты нованароджаны чалавек, гэта кітаец.

* * *

— Якія найбольш улюбёныя звяры бландзінкі?
— Норка ў шафе, „Ягуар" у гаражы і асёл, які на ўсё гэта зарабіў.

* * *

— Калі бландзінка гаворыць найменш?
— У лютым, бо гэта найкарацейшы месяц.

* * *

— Што загадвае бландзінцы маці, калі тая выходзіць на сустрэчу?
„Калі да поўначы не будзеш у ложку, вяртайся дадому!"

* * *

— Чаму нельга запрагнуць чужое бландзінкі?
— Каб пасля не мець яе на ўтрыманні.

* * *

— Што цяпер робіць практычная бландзінка?
— Апранаецца на крэдыт, а распранаецца за грошы.

## Рэлаксацыя суботнікам

Завітала к нам вясна і прынясла вялікае ажыўленне ва ўсіх галінах жыццёвай актыўнасці. Нават масцітыя *труженики литературы* замітусіліся быццам тыя мурашкі і лезуць на свой Парнас быццам на мурашнік. Глядзіш на адных і на другіх збоку і адчуваеш сябе быццам Чарльз Дарвін падчас яго-нага сузірання за стрэсагенным змаганнем за быт. Узяў я ў рукі адзін з нашых грамадска-культурных часопісаў з намерам грамадска-культурнай рэлаксацыі ад усялякіх стрэсаў, якімі перапоўнена наша сучаснае перацывілізаванае жыццё. А рэлаксацыя — гэта самы лепшы лек ад сардэчна-сасудзістых, нервовых і стрававальных захворванняў, з выключэннем дэрматалагічных, якія ўзнікаюць толькі пры некаторых, даволі непрыстойных, відах тае рэлаксацыі.

За медыум свае рэлаксацыі ўзяў я друкаванае слова — сродак даволі нетыповы ў нашым менталітэтным клімаце. Бо самым ім папулярным з'яўляецца наша роднанькая. Не жонку чалавеку я тут маю на думцы, бо маналогі бабаў гэтае катэгорыі вядуць не да рэлаксацыі, а адно да мужчынскай датэрміновай звышпамяральнасці.

Кульнуць пару чарак — і клопаты далоў! Хаця на некаторы час; абы толькі тая роднанькая была... Вось, калі ў *широкой стране родной* Гарбачоў увёў „сухі закон", многія людзі апынуліся без сродкаў духовага быту-нябыту. Шчасцем у няшчасці самыя кемлівыя маладыя людзі знаходзіліся ў той час на вайне ў Афганістане і менавіта тыя змагары за *счастье необъятной родины* і паспяшылі з як жа патрэбнай дапамогай свайму грамадству. З Афганістана ў СССР ехалі не толькі нябожчыкі і калекі, але і опій, гашыш ды герайн. І вось апошнія далікатэсы сталі займаць вызваленае ад алкаголю поле, а калі яму дазволілі вярнуцца на арэну радасці *населения*, тое ўжо паспела схапіць новы кручок. Расцэньваецца, што сёння ў адной толькі Расеі трымае яго каля дзесяці мільёнаў чалавек, а гадавы наркаабарот складае там каля двух з паловаю мільярдаў доляраў. Смяротнасць ад наркотыкаў у той жа Расеі павялічылася за апошнія дзесяць гадоў у дванаццаць разоў сярод дарослых і ў сорак два разы сярод дзяцей... І цешыцца толькі трэба, што наш *всенародно избранный* свету не бачыць за Расеяй з яе стандартамі і перадавымі тэмпамі.

Наша краіна сёння мяняе свае арыенціры, паказваючы адафганскаму наркатыгру спіну, а ўсе свае перадавыя памкненні кіруючы на рэлаксацыю свайго грамадзянства новым адміністрацыйным падзелам. Гэта, аднак, далекавата ад нас. А ў нас, пасля посту, рэлаксацыя традыцыйная, упрыгожаная дзе-ні-дзе рэгіянальным фальклорам. Вось, у згаданым грамадска-культурным часопісе прачытаў я, як гэта наш выдатны аўтар Генерал-Тэатрал слухаў па радыё дыялог, у якім Анасіс-Парнасіс і Чыкільгайціс-Зашчукайціс гутарылі пра празаікаў, не згадваючы пра яго; быццам тыя Дарвінавы арганізмы! І гневам гнеўным разгневаўся ён. І справядлівым! Бо ж абодва дыялаганы павінны ведаць, што Генерал наш з'яўляецца аўтарам самага прэстыжнага жанру: напісаў ён суботнік. А суботнікі пісалі і лаўрэат Нобелеўскай прэміі Лех Валэнса, і лаўрэат Ленінскай прэміі — легендарны маршал-герой перыяду вайны ў Афганістане — *дорогой родной Леонид Ильич* Брэжнеў; у апошняга атрымалася нават трылогія. І медалямі ўзнагароджаны яны столькімі, што цяпер цяжка нават установіць, у каторага з іх больш... Успрымаю з агідаю, як казаў адзін з нашых паэтаў, а нават не магу цярпець, як казаў другі, празаік, што адзін са згаданых размоўцаў сам суботнічаў пры тым тэатральскім аўтарстве, а цяпер быццам пра таго выдатнага аўтара забыў. І калі нашы тут перадавыя эліты так абыякава будуць адносіцца да нашых класікаў самага прэстыжнага жанру, дык хто ж будзе адносіцца сур'ёзна да нас увогуле? Шчасце ў няшчасці толькі, што наш любімейшы *дорогой родной Александр Григорьевич* апраметна прыпомніў усім, што такое суботнік. Жа ж жа каб не ён, дык адно сорам быў бы перад усім светам...

Адам Маньяк

## Сардэчныя тайны

Людзі, Сэрцайка! Вось вы ўсе неўзабаве будзеце гучна святкаваць Дзень Маці. Будзеце ўручаць нам кветкі, даваць падарункі. Напэўна будзе нам ад гэтага міла, але... Ці падумалі вы, як цяжка бывае бацькам на старыя гады, калі яны застаюцца адны, а нярэз яшчэ хворыя ды недалужныя? Што яны тады думаюць, што ўспамінаюць?!

Во, даражэнькія! Думаем-передумаем усё сваё жыццё, дзетак успамінаем, як кожнае радзілася, гадавалася, як расло, вучылася, як жанілася...

Я радзіла тры разы, а жыве вось толькі адзін сынок. Як мы каля яго хадзілі, як трэсліся над ім усё жыццё! Вядома, гэта была наша адзіная радасць, адзіная надзея на сэнс жыцця і на старасць.

Вывучылі мы свайго сыночка, лекарам стаў. А, думаеш, у Беластоку застаўся? Не-е, вярнуўся амаль дахаты. Працуе ў горадзе, да якога ад нашай вёскі ўсяго 15 кіламетраў.

Пакуль жыў яшчэ мой стары, дык два разы ў тыдзень сын прыязджаў наведаць нас. Цяпер жа, калі я засталася адна, ён бывае ў мяне кожны Божы дзень. Дальбог, Сэрцайка, не маню я. І ежы прывязе варанай, і ўсяго. Каб вы, мама, не стаміліся, кажа ён. Не варыце, лепш адпачніце крыху.

А я яшчэ даволі добра трымаюся, хаця мне ўжо 88 гадоў. Але на зіму яны мяне ўжо забіраюць у горад. І сын, і яго жонка, і дарослыя ўнукі крычаць у адзін голас, каб не паліла ў печах, каб не мучылася. Ну, дык прыедзе сын і забярэ мяне.

А мне ў іх сумна. Сяджу адна ў хаце, у вокны спаглядаю. Чакаю, пакуль сын і нявестка вернуцца з працы. У сына прыгожая віла, але цяжка мне хадзіць па тых сходах. Дык мне, не скажу, далі гасцінны пакой унізе.

Калі сядаем есці, сын памагае мне прайсці на кухню, дзе мы ямо, заўсёды падтрымлівае мяне за руку. Нявестка злуецца: няхай, кажа, сама ходзіць, ёй рух патрэбны! А я ёй кажу: мне гэта падабаецца! Яна адвернецца і слова не скажа.

Сядзем за стол, а сын будзе маё крэсла папраўляць, каб мне зручна сядзелася. І зноў яна злуецца. А чаго? Гэта ж маё дзіця, я яго нарадзіла. Калі ён возьме мяне пад руку, прытуліцца да мяне, гэта ж быць можа, мая апошняя радасць... З унукамі няма ў нас такой блізкасці, бо іх выхавала маці нявесткі. А сына я проста багатвару.

Было ў нас зямлі нямала, гаспадарка добрая, вялікі дом — усё перайшло на сына. Што мне, удаве, ужо патрэбна... А цяпер сыновая мне часамі ўвагу звяртае, што ем зашмат вянддіны без хлеба... А я ж і рэнту ім усю аддаю, ды і мае запасы на так званую „чорную" гадзіну на іх запісаны.

Людцы маладыя! Крыўдна старым чуць такія ўвагі. Не дзівіцеся тады, што рвуцца яны дадому, на вёску, як толькі выгляне веснавое сонейка. Ці прынамсі ты, Сэрцайка, разумееш нас, старых?

Антаніна

Антаніна! Усё ты напісала правільна, дык як жа цябе не зразумець?! Усе мы будзем старыя і недалужныя. Патэнта на вечную маладосць няма. Дык можа не толькі добрыя сыны, але і нявесткі павінны памятаць пра гэта ўжо ў маладосці. Сённяшнія нявесткі таксама будуць калісьці цешчамі, такі чалавечы лёс.

Сэрцайка